# Поплеч з чачэнцамі ваююць беларусы. Стар.3

Стар.3


# НАША НІВА 2000

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі. №1 (158) 3 СТУДЗЕНЯ 2000 г.


*Здаецца, зусім не было сьнегу і менскія вуліцы выглядалі пуста і змрочна. А тут — цэлы рознакаляровы натоўп моладзі — з казой, дзедам, цыганам ды іншымі традыцыйнымі пэрсанажамі.*

*З рукі інфармацыйнага агенцтва БелаПАН беларускія газэты напісалі пра нейкага адваката Альгірдаса Паўлаўскаса, які пагадзіўся бараніць Міхаіла Чыгіра ў ягоным судзе.*

## 1979 год. Першыя Каляды



*Ідуць-пяюць. Рэдкія мінакі азіраюцца спалохана. Весялосьць песень гасьне, адлятаючы ў проймы паміж шэрымі партыйнымі будынкамі. Але яшчэ жывы быў Караткевіч у сваім доме на Карла Маркса. Майстроўня сьпявала яму ў двары. З вокнаў кідалі капеечкі адважныя людзі. Памятаю пачуцьцё выкліку — робім нешта недазволенае, але пры гэтым бяскрыўднае.*

*Мы ўжо выйшлі з Караткевічавага двара, калі нас дагнаў хлопец і працягнуў падарунак са словамі «Гэта ад сям'і Адамчыкаў». Ня памятаю, ці называўся ён ужо Адамам Глёбусам.*

*За праспэктам наляцелі міліцэйскія машыны. Спрабавалі выхапіць з натоўпу каго-небудзь аднаго, але ўсе трымаліся разам. «Забірайце ўсіх!» І міліцыя адстала. А моладзь паехала ў майстэрню знаёмага мастака, каб там расправіцца з накалядаванымі пачастункамі. У сваім коле панаваў свой сьвет, зусім не такі, як на халодных і пустых вуліцах.*

*...Як ні круці, з гэтага сапраўды пачалося ўсё, што было пасьля — адраджэнскі рух, незалежнасьць, цяперашняя апазыцыя...*

*Працяг на старонцы 7.*

## «Палянэз» ад Папы Рымскага

Раённая бальніца ў Астраўцы перад Навагоднімі сьвятамі атрымала незвычайны і прыемны падарунак. Незвычайны, бо яго падарыў па прашэньні астравецкага ксяндза-пралата Алейзага сам Папа Рымскі Ян Павал ІІ. Прыемны, бо гэта аўтамабіль «хуткай дапамогі» «Палянэз». Цяпер астравецкія мэдыкі да хворых людзей будуць езьдзіць ня толькі на састарэлых і «дабітых» расейскіх «УАЗах», але і на падораным «Палянэзе». Больш таго, калі ўзьнікне неабходнасьць, у машыне можна праводзіць і апэрацыі.

**Мар'ян Вянгроўскі**

## Плач і скач

За навагоднюю ноч у Беларусі ў сямі няшчасных здарэньнях загінулі 4 і параненыя 6 чалавек. 6 чалавек самі сабе зрабілі сьмерць. 576 чалавек злавілі на вуліцах п'янымі, а за рулём прыкмецілі 91 п'янога.

**БелаПАН**

## Гаворыць Вільня: 612 KHz, 490 AM

### *З новага году на сярэдніх хвалях пачалося вяшчаньне беларускага радыё «Балтыйскія Хвалі»*

«Наша Ніва» ўжо не аднойчы пісала пра незалежнае беларускае радыё зь Вільні. І вось 1 студзеня 2000 году ў эфіры прагучалі першыя такты народнае песьні «Ці сьвет, ці сьвітае», якія сталі музычным сыгналам радыё «Балтыйскія хвалі», і голас галоўнага рэдактара радыёстанцыі, Сяргея Шупы, абвесьціў доўгачаканае: «Гаворыць Вільня».

Новае радыё мае намер сабраць на сваёй хвалі ўсе асноўныя беларускія радыёперадачы, якія цяпер трансьлююцца толькі на кароткіх хвалях: Радыё Свабода, Радыё Рацыя, Беларускую праграму Польскага радыё ды беларускую дзесяціхвілінку, якая штодня выходзіць на дзяржаўным літоўскім радыё. Арыгінальныя праграмы загучаць у эфіры ў люты-сакавіку. Пакуль жа з 1 студзеня штодня можна слухаць на сярэдніх хвалях Беларускую службу Польскага радыё — зь 19.30 да 20.00. Але колькасьць эфірных гадзінаў будзе няўхільна павялічвацца.

Новае радыё мае назву «Балтыйскія Хвалі» (задумлялася яно як «Вольная Беларусь»), а рабіцца яно будзе сіламі супрацоўнікаў Беларускага Інфармацыйнага Цэнтру ў Вільні.

На ўрачыстым адкрыцьці станцыі выступіў адзін з заснавальнікаў, дэпутат літоўскага Сойму Рымантас Пляйкіс, які паклаў вялікія намаганьні, каб станцыя набыла ліцэнзію й сродкі. Ён, між іншым, сказаў, што ідэя стварэньня беларускамоўнае станцыі разглядаецца ў Літве як пэрспэктыўная справа. Выступіў таксама Сяргей Шупа, які пажадаў, каб праз пару гадоў адбылася падобная інаўгурацыя тэлевізіі «Балтыйскія Хвалі». На ўрачыстым адкрыцьці прысутнічалі старшыня БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка й галоўны рэдактар газэты «Наша Ніва» Сяргей Дубавец.



*Рымантас Пляйкіс слухае новае радыё*

**Алесь Кебік**

## Беларускі Лукашэнка судзіць, а літоўскі — абараняе?

Быццам гэты Паўлаўскас — былы генэральны пракурор Літвы і канкураваў з Адамкусам на прэзыдэнцкіх выбарах (але прайграў). Калі так, дык ён ня Альгірдас, а Артурас Паўлаўскас, і на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах яго называлі «літоўскім Лукашэнкам» — за ўзрост і падобную безразважнасьць у выказваньнях, а найперш за тое, што балятаваўся Паўлаўскас за грошы расейскіх алігархаў і мае крыху прасавецкія погляды. Калі ўсё гэта ўзяць пад увагу, дык згадваецца нашумелы пазьнякоўскі артыкул «Праект Чыгір», дзе экс-лідэр БНФ зьвінавачу Чыгіра ў фінансавай падтрымцы з Масквы і ў каварных плянах змаскаліць беларускую апазыцыю. Словам, калі Паўлаўскас стане бараніць Чыгіра, дык убачым, што абодва сядзяць у маскоўскай кішэні, і меў рацыю Пазьняк.

Адно загадка — чаму наша прэса, як згаварыўшыся, зьмяніла Паўлаўскасу імя? Ці гэта нехта першы памыліўся, ці хочуць затушаваць тыя сувязі Чыгіра, якія б раскрыў удзел «літоўскага Лукашэнкі»?

**Ліцьвін**

## ЦЮМЕНЬ

*«Закарцела адміністрацыі Цюменскай вобласьці правесьці на сібірскай зямлі Дні культуры Беларусі. Дзякуй ёй за гэта. А як бы яшчэ я патрапіў за Уральскі хрыбет? Прэзэнтаваць нашу культуру выпала гонар Малому тэатру Ігара Забары. Мяне афармілі мастацкім чытальнікам».* Гэтак сьпявак і актор Зьміцер Бартосік адправіўся ў падарожжа за тры тысячы кілямэтраў. Як ён вярнуўся жывы і здаровы, ён апісвае на старонцы 11.

## ДУДЗІЧЫ

Андрэй Захаранка вязе нас у іншую экскурсію — у сваю родную вёску Дудзічы на Пцічы (Вінцук Вячорка, дарэчы, вымаўляе: «Птыч»). Дудзічы цяпер уславіў сваім маёнткам пад назваю «Дудуткі» Яўген Будзінас. Пан Будзінас, мабыць, укрыўдуе на нас за гэтую публікацыю. Што ж, хай крыўдуе. На старонцы 8 мы адкрываем новую рубрыку — **«Вясковы лірнік»**.

## Падарункі ад Кіпеляў менскім дзецям

Яшчэ ўлетку сужэнства Зора й Вітаўт Кіпелі — беларусы з амэрыканскага штату Нью-Джэрсы, вядомыя і ў Нью-Ёрку сваёй актыўнай навуковай і грамадзкай дзейнасьцю, — вырашылі зрабіць падасьць беларускім дзецям, якія вучацца па-беларуску.

Задума знайшла рэалізацыю ў часе калядных сьвяткаваньняў: 22, 23 і 28 сьнежня шкаляры колькіх беларускамоўных клясаў адной менскай (СШ №37) і адной падменскай (Сеньнінскай СШ) школаў атрымалі дасланыя сп-вам Кіпелямі падарункі. Акцыя адбылася дзякуючы рупнасьці ТБМ і новастворанага Бацькоўскага камітэту.

Таварыства Беларускае Мовы рэпрэзэнтавала старшыня менскае структуры ТБМ Леанарда Мухіна (летась «НН» пісала пра тое, як спн.Мухіну шчыміла за беларушчыну чынавенства сыстэмы адукацыі), ад Бацькоўскага камітэту бралі ўдзел сп-ва Ілона Ўрбановіч-Саўка і Зьміцер Саўка.

Арганізатары акцыі выказалі спадзеў, што падобныя чыны будуць мець працяг у наступныя «чырвоныя даты» беларускага календара, — то чакайма Дня Волі!

**Дзед Зюзя**

# ЛЮДЗІ СТАВЯЦЬ ЦЭРКВЫ

***У пасёлку Пагранічным Бераставіцкага раёну, што на Гарадзеншчыне, заклалі першы камень пад Храм Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы***

Як пісала ўжо «НН», прыхаджане праваслаўнай Сьвята-Эўфрасіньнеўскай грамады Пагранічнага на чале із сьвятаром Іванам Спасюком яшчэ ў леташнім траўні пастанавілі выйсьці з-пад юрысдыкцыі Маскоўскага патрыярхату. Першы камень пад Храм у гонар Сьвятой Эўфрасіньні Полацкай у апошнюю нядзелю 99-га асьвяціў на ўскраіне Пагранічнага архіяпіскап Ровенскі й Астроскі Кіеўскага патрыярхату Ўкраінскай аўтакефальнай праваслаўнай царквы ўладыка Серафім.

Афіцыйныя праваслаўныя вярхі арганізавалі кампанію змаганьня з «раскольнікам». У нумары «Гроденских епархиальных ведомостей» за сьнежань быў апублікаваны выкрывальны артыкул — айца Івана, у прыватнасьці, зьвінавацілі ў хуліганстве. Сьвятар з Пагранічнага адрэагаваў на такія мэтады пазовам у суд на кіраўніцтва Гарадзенска-Ваўкавыскай япархіі. І тут ужо архіяпіскап Гарадзенскі й Ваўкавыскі ўладыка Арцемій, відавочна, асьцерагаючыся грашовае кары за зьнявагу гонару й годнасьці айца Івана, запрасіў апошняга на прымірэнчую сустрэчу. Ярарх Беларускага экзархату Расейскай праваслаўнай царквы заклікаў айца Івана адмовіцца ад намераў ствараць адміністрацыйна незалежную Беларускую праваслаўную царкву й паабяцаў наўзамен за згоду падабрацца для яго якісь добры прыход у Беларусі. Аднак сьвятар з Пагранічнага не зьбіраецца прымаць гэтых прапановаў. На 5 студзеня ў Ленінскім судзе Горадні паўторна прызначаны пачатак разгляду пазову Івана Спасюка на кіраўнікоў Гарадзенска-Ваўкавыскай япархіі.

Пад час асьвячэньня пад наглядам мясцовай міліцыі працэсія вернікаў з крыжом прайшла ад часовага малітоўнага дому да дзялянкі на ўскраіне паселішча, дзе ўласна й мае быць пастаўленая царква. Дарма што даваліся папярэднія абяцаньні не перашкаджаць цырымоніі закладзінаў каменя, берастаўская міліцыя не дазволіла прыбыць у Пагранічны вернікам з Мастоў — на пад'ездзе да пасёлку на іх былі складзеныя пратаколы за парушэньне памежнага рэжыму, і аўтобус зь імі быў адпраўлены назад. Зрэшты, з рэальнасьцю памежнае зоны сутыкнуўся фактычна кожны нядзельны госьць Пагранічнага — так, карэспандэнт «НН» даваў тлумачэньні памежнікам адразу ж па спыненьні рэйсавага аўтобуса ў Пагранічным...

Як бы там ні было, камень у падмурак бажніцы Беларускай народнай праваслаўнай царквы закладзены — больш за тое, ёсьць фундатары зь ліку заможных вяскоўцаў, гатовыя ўжо цяпер ахвяраваць на будаўніцтва грошы. «Як ня будзе рэгістрацыі, — прагназуе сытуацыю айцец Іван, — нашыя пастыры пойдуць такім самым шляхам, што й мы ў Пагранічным. Будзем закладаць камяні й будзем будаваць храмы. Як паставім цэрквы, будзе рэгістрацыя».

Ужо праз дзень пасьля цырымоніі закладзінаў айцец Іван атрымаў пратакол, падпісаны трыма службовымі асобамі — старшынём Савету па справах рэлігіяў Гарадзенскага аблвыканкаму, намесьнікам старшыні Берастаўіцкага райвыканкаму ды кіраўніком Пагранічнага пасялковага савету. У пратаколе праваслаўныя ўрачыстасьці ў Пагранічным кваліфікуюцца як незаконныя дзеяньні незарэгістраванай рэлігійнай грамады. Цікава, што пра чарговае рашэньне не рэгістраваць Сьвята-Эўфрасіньнеўскі прыход яго сьвятар дазнаўся толькі з гэтага пратаколу. Дарэчы, у хуткім часе пасьля праваслаўных Калядаў мае адбыцца Сынод Гарадзенска-Ваўкавыскай япархіі — айцец Іван не выключае, што на гэтым Сынодзе ярархі Беларускага экзархату Расейскай праваслаўнай царквы пасправуюць аддаць свайго канкурэнта анатэме. «Ім засталося толькі расьпяць мяне, але я з дарогі Беларускай народнай праваслаўнай царквы не сыду», — заявіў у інтэрвію «НН» Іван Спасюк.

**Юрась Бушлякоў**



Фота Анатоля Клешчука

---

зь Берасьцейшчыны

## Студэнцкае таварыства ў Берасьці

*Ва ўнівэрсытэце разгортвае дзейнасьць навуковае таварыства маладых гісторыкаў «Поспал».* Хлопцы ладзяць экспэдыцыі ў полі і ў архівы і чаго толькі не робяць. Хочуць, каб да іх далучалася іншая моладзь, бо якраз з такіх суполак і паўстаюць фарпосты белмоўнае адукацыі. Спадзяюцца, што на ўзор гістфакаўскае суполкі створацца незалежныя гурткі на іншых факультэтах.

**Сяржук Пруднікаў**

зь Менску

## ТБМ цешыцца вынікамі перапісу

*З ТБМу нам даслалі вельмі энтузіястычны ліст, натхнёны вынікамі перапісу.* Тое, што каля 37% людзей у хаце гавораць пабеларуску, паказвае, што «курс на русіфікацыю, што вядзецца на розных узроўнях, церпіць паразу». ТБМ патрабуе прывесьці моўную палітыку дзяржавы ў адпаведнасьць з вынікамі перапісу — забясьпячыць беларускай мове рэальны статус дзяржаўнае. «Хопіць пертвараць беларускі народ у манкуртаў», — палымяна заклікае ТБМ.

**Б.Т.**

## Бандажэўскага бадай выпусьцілі

*Пад падпіску аб нявыезьдзе вызвалілі з-пад варты былога рэктара Гомельскага мэдінстытуту Юр'я Бандажэўскага,* быццам бы з-за пагаршэньня стану ягонага здароўя. Аднак насамрэч прафэсар Бандажэўскі вырваўся з Валадаркі дзякуючы найперш хвалі пратэстаў з боку міжнароднае супольнасьці.

Бандажэўскага заарыштавалі сёлета 13 ліпеня, зьвінавацішы яго ў атрыманьні хабару за паступленьне. Зьбіраючы паказаньні сьведкаў, пракуратура нават паабяцала вызваліць ад адказнасьці тых студэнтаў, якія добраахвотна й ананімна прызнаюцца ў хабары былому рэктару. Ахвотных не знайшлося. Да таго ж ад сваіх ранейшых паказаньняў адмовіўся галоўны сьведка абвінавачваньня -- прарэктар Уладзімер Раўкоў. Дык сьледства засталося бязь сьведкаў ані доказаў.



*Прафэсар Бандажэўскі да арышту*

Юры Бандажэўскі знаходзіцца цяпер у сваякоў сваёй жонкі ў Менску. Паводле сваёй прысягі зь Менску выяжджаць ён ня можа.

Пад кіраўніцтвам Бандажэўскага Гомельскі мэдычны інстытутператварыўся ў сусьветны цэнтар вывучэньня ўплыву на арганізм радыяактыўных элемэнтаў. Сам Бандажэўскі стаў сусьветна вядомым навукоўцам у радыялягічнай мэдыцыне. Вынікі ягоных дасьледаваньняў відавочна не супадалі з афіцыйнай пазыцыяй чыноўнікаў зь Міністэрства аховы здароўя і палітычнага кіраўніцтва Беларусі.

Як вядома, цяпер улады развіваюць тэму вяртаньня ў сельскагаспадарчы абарот забруджаных земляў, спрашчэньня канцэпцыі пражываньня ў "зоне". У той жа час калега і аднадумец Бандажэўскага -- прафэсар-фізык Васіль Несьцярэнка заяўляе, што трэба адсяляць усіх людзей са 100-кілямэтровай зоны вакол рэактару.

Пасьля арышту Бандажэўскага свой голас у абарону беларускага прафэсара ўзьнялі ўдава былога прэзыдэнта Францыі Мітэрана, Камітэт занепакоеных навукоўцаў ЗША, калегі зь Вялікай Брытаніі, Нямеччыны. Пра арышт Бандажэўскага напісала ангельская газэта *Guardian.* Да генэральнага пракурора Беларусі зьвярнуліся расейскія праваабарончыя ды экалягічныя арганізацыі на чале з акадэмікам Яблакавым.

Пабачым цяпер, ці будзе справа Бандажэўскага давезеная да суду. Бадай не была!

**Паводле Радыё Свабода**

з Падняпроўя

## Не кажы, што нядуж

*У Магілёве былі перасталі льготнікам лекі за паўцаны прадаваць,* бо горад за гэтыя льготныя лекі завінаваціўся аб'яднаньню «Фармацэя» 50 мільёнаў дэнамінаваных рублёў. А ёсьць правіла: калі завінавацішся болей за 9 млн., аптэкары маюць права перастаць прадаваць за так. Ну, аднак жа, вецяраны ўзьнялі гармідар, Дражын распарадзіўся, і вось ужо зноў прадаюць. Ясна, ня ўсё — але валяр'янкі і валідолу до.

**Б.Т.**

---

ПАЗЫТЫВЫ

# АЛЬКАГОЛЬНАЯ ІНДУСТРЫЯ

***Ходзяць чуткі, нібыта ўсе — грамадзяне, жыхары, тубыльцы, тутэйшыя людзі і насельніцтва Беларусі — зачакаліся прыемных навінаў. Яны чакаюць, а мэдыі тым часам дураць галовы немаведама чым. Вока не адпачывае, сэрца ня цешыцца. Мусім тую ганебную моду спыняць. Будзьма кожны тыдзень знаходзіць пазытыў. Нават там, дзе яго, на першы погляд, няма. Напрыклад...***

Існуе безьліч спосабаў сапсаваць сабе жыцьцё без чыёйсьці дапамогі. Балазе, усе ўмовы дзеля таго даўно створаныя. Але нават пры адсутнасьці ўсялякіх умоваў, у самым задрыпаным калгасе, найкарацейшым і простым шляхам у пекла ёсьць ужываньне разнастайных гатункаў этылавага сьпірту, разьведзенага вадою.

Кемлівы беларускі народ пра гэта даведаўся даўно, таму жлукціць гарэлку штодзённа і ўпэўнена. Прапіваецца кожны дваццаць пяты зароблены рубель, а ў вёсцы дык і кожны дваццаты. Праз тое, мабыць, колькасьць людзей з парушэньнямі псыхікі за апошнія дзесяць гадоў вырасла больш чым удвая і складае 12 чалавек на тысячу. Калі ў 1990 г. ад перапою пайшоў на той сьвет кожны соты з памерлых, дык летась ці ня кожны пяцьдзясят пяты. З тае ж нагоды і ў пятлю лезуць альбо топяцца. Дзесяць гадоў таму са сваёй волі жыцьцё канчаў кожны пяцідзясяты з памерлых, а зараз амаль кожны саракавы. Не кажу ўжо пра тых, што, напіўшыся, пранцы падчапілі альбо забілі каго. Вось дык сіла ў гарэлцы!

Што казаць, калі сама Перастройка, якая дала савецкаму чалавеку права адкрыта звацца пэдэрастам, ціха сканала ў барацьбе з п'янствам. Азірнецеся. Дзе сябры «Таварыства цьвярозасьці»? Дзе змагары супраць алькагольнага этнацыду славянаў? Загнаныя ў дальні кут, нешматлікія, як дэпутаты ВС 13-га скліканьня, яны спадзяюцца на аднаго Бога. Маюць рацыю, Бог дазваляе існаваньне самых дзіўных вычварэнцаў. Бывае сонца і ў іхнае ваконца.

**Напрыканцы тысячагодзьдзя Міністэрства сельскай гаспадаркі паведаміла пра тое, што тэмпы росту (якімі ганарыцца ўся краіна) аб'ёмаў вытворчасьці лікёрагарэлачнай прадукцыі пачалі скарачацца. У лістападзе айчынныя вытворцы выдалі на-гара ўсяго 24 000 000 пляшак гарэлкі і лікёра-гарэлачных вырабаў.**

Па пяць паўлітровікаў на аднаго мужчыну ў месяц і па адным на жанчыну. Чаго гэна варта? Гэта ж на 7,6% меней чым летась, у адпаведны перыяд.

Можна сабе ўявіць, як радуюцца спаду вытворчасьці нелюдзі, што ненавідзяць родны народ, як яны пацяраюць рукі, сьмяюцца над пакутамі сотняў тысячаў вытворшчыкаў, якім ня хопіць якаснай дзяржаўнай прадукцыі.

Чым можна адказаць гэтым ідэалягічным банкрутам? Стрыманасьцю, талеранцыяй, верай у кіраўніцтва краіны, што вядзе нас правільным шляхам. Няхай сабе плявузгаюць. Мы іх трываем і шкадуем, як дурных дзяцей, бо хаця ж яны і беларусы, але дзе ім зразумець глябальную мэту працэсу вытворчасьці і спажываньня нацыяй штогод 180 000 000 афіцыйных паўлітровых бутэлек абсалютнага алькаголю.

Дарэчы, яны сваёй мінэральнай вады высербалі ня меней. І ніхто дзеля таго крыку не ўсчынаў і ў Гельсынскія камітэты да розных Пікаў-Вікаў ня бегаў. Ну, сабе павесіцца, звар'яцее, перап'ецца, заб'е і заб'ецца крыху меней грамадзянаў і што? Пазытыў.

**Міхал Залескі**

# «НАША НІВА» СТАЛА ГАЗЭТАЙ СТАГОДЗЬДЗЯ Ў АПЫТАНЬНІ «ЗВЯЗДЫ»

***Газэта «Звязда» правodзіла сярод сваіх чытачоў апытаньне «Рэйтынг стагодзьдзя» ў 12 намінацыях. За два месяцы рэдакцыя атрымала 3060 запоўненых анкетаў.***

Найбольшым дасягненьнем стагодзьдзя абсалютная большасьць чытачоў газэты назвалі абвяшчэньне Беларусяй незалежнасьці ў 1991 годзе. Сярод іншых дасягненьняў называліся таксама узьяднаньне Заходняй і Ўсходняй Беларусі, пабудова мэтро, палёт беларуса ў космас, удзел БССР у заснаваньні ААН, пабудова ўласнага камбайну і трактару «МТЗ-100». Найбольшай бядой стагодзьдзя большасьць, амаль палова, назвала чарнобыльскую катастрофу. На другім месцы сярод бедаў стагодзьдзя — апошняя вайна. А вось на трэцім... пагроза страціць незалежнасьць Беларусі. Вышэй за сталінскія рэпрэсіі, якія чытачы «Звязды» паставілі толькі на чацьвертае месца. Сярод іншых бедаў: ад распаду СССР да п'янства, ад згубы беларускае мовы да зьяўленьня замежных харчоў у ятках.

Беларускім прадпрыемствам-сымбалем XX ст. 30% чытачоў «Звязды» назвалі Менскі трактарны завод, з канвэеру якога ў 1950 сышоў першы наш трактар. Называлі таксама БелАЗ, МАЗ, а за імі чыгунку і БелОМА, і, вядома ж, піўзаводы... Сярод «грамадзкіх дзеячоў XX ст.» на першым месцы ў зьвяздоўскай публікі Машэраў, на другім — Лукашэнка, за імі — браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Пазьняк з Шушкевічам. Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч таксама трапілі ў гэтую намінацыю.

24% чытачоў лічаць «Кнігай XX стагодзьдзя» Коласаву «Новую зямлю», 18% — «Каласы пад сярпом тваім» Караткевіча, 9% — «Палескую кроніку» Мележа. «Пісьменьнікам стагодзьдзя» аднадушна назвалі Васіля Быкава. Некалькі чытачоў дадалі нават яму тытул «сумленьне стагодзьдзя». На другім месцы — Уладзімер Караткевіч. Далей Якуб Колас, Янка Купала, Іван Шамякін, Іван Мележ, Максім Багдановіч, Янка Брыль, Сьвятлана Алексіевіч і гэтак далей аж да Адама Глёбуса.




«Музычным творам стагодзьдзя» стала «Зорка Вэнэра» на словы Максіма Багдановіча й музыку Сымона Рак-Міхайлоўскага (22%). На другім месцы — гімн «Магутны Божа» паэткі Наталі Арсеньневай і кампазытара Міколы Равенскага (10%). Далей: «Бывайце здаровы, жывіце багата...» (8%), «Люблю наш край» (6%), «Белавеская пушча» і «Гімн БССР» разам з «Касіў Ясь канюшыну». А таксама балеты Лукаса «Кастусь Каліноўскі» і Мдзівані «Рагнеда», «Партызанская» і «Мая краіна» групы NRM. Кампазытарам жа стагодзьдзя абвесьцілі адзінадушна Лучанка. Іншых па імёнах ня ведаюць.

У рэйтынгу пэрыядычных выданьняў стагодзьдзя ўсьлед за роднаю «Звяздою» (60%), чвэрць апытаных (25%) назвалі «Нашу Ніву».

«Беларускім мастаком стагодзьдзя» стаў Марк Шагал, якому аддалі перавагу 42% апытаных. Міхаілу Савіцкаму — 22%, пры тым тыя ж, хто назваў яго «мастаком стагодзьдзя», «пісьменьнікам стагодзьдзя» называлі Івана Шамякіна — гэта назіраньне «Звязды». Трэцім у сьпісе стаў Язэп Драздовіч. За ім Вітальд Бялыніцкі-Біруля. А за імі, сярод іншых, Лёнік Тарасэвіч і Алесь Пушкін.

«Жанчынаю стагодзьдзя» стала Стэфанія Станюта. 7% рэспандэнтаў назвалі ўласных мамаў. А сярод іншых называлі таксама Цётку, Ларысу Геніюш, Касю Камоцкую.

«Спартоўцам стагодзьдзя» стаў шматразовы чэмпіён сьвету па вольнай барацьбе Аляксандар Мядзьведзь. За ім гімнасты Віталь Шчэрба і Вольга Корбут і ўся футбольная каманда «Дынама'82». Дарэчы, сама «Звязда» мае найбольшы сярод беларускамоўных выданьняў наклад — 75006 асобнікаў.




Кумар

## Спытайцеся ў Гутмана

Відаць, патрапіла «Наша Ніва» сваім нядаўнім жыдоўскім нумарам у нейкі грамадзкі нэрвовы вузел. Бо вось ужо і Лукашэнка зазьбіраўся ў Ізраіль, а БНФ з гэтае нагоды ладзіць цэлую прэс-канфэрэнцыю. 4 студзеня а 12 гадзіне ў менскай сядзібе Фронту на Варвашэні 8 на пытаньні ахвотных адкажа знаны дзяяч габрайскага руху Якаў Гутман. Галоўным чынам ён будзе гаварыць пра антысэмітызм у Беларусі.

## У «Кнігарні пісьменьніка»

У Менску выставілі на продаж няспроданыя запасы кніжок з выдавецтваў «Мастацкая літаратура» і «Беларуская энцыкляпэдыя». Дык такія рарытэты можна набыць: ад зборніка выбраных вершаў Вялюгіна выданьня 1967 году да Танка 1982 году з сэрыі «Бібліятэка беларускай паэзіі» (па 200 дэнамінаваных рублёў) і «Закаханым» Эдзі Агняцьвет (260 р.), або, напрыклад, тамы «Энцыкляпэдыі прыроды Беларусі» (750 р.). Цэны людзкія на ўсе выданьні.

## «10 вякоў беларускай гісторыі»

Зьявілася нарэшце ў продажу




гэтая вялікая, выдадзеная ў Літве, кніга Ул.Арлова і Г.Сагановіча. Ёсьць у кнігарні ТБМ (Румянцава 13), ёсьць на сядзібе БНФ (Варвашэні 8), ёсьць і ў нас у рэдакцыі.

## Дзіцячыя вакацыі

Дзетак у дні вакацыяў можна звадзіць у «Навагоднія музычныя спэктаклі для дзяцей» у Філярмоніі (з 4 да 7 студзеня аб 11-й і 14-й) або ў опэру: «Кот у ботах» Ц.Кюі 4 студзеня і «Пітэр Пэн» 6-га, і той, і той аб 11-й. Малы ж тэатар прапануе з 7 да 9 студзеня ў Палацы чыгуначнікаў музычнае прадстаўленьне «Таямніца чароўнага гарышча». Пачатак а 13-й і 16-й. Усё парасейску, праўда.

## «Трышчан і Іжота»

Вы нарэшце сустрэлі Новае тысячагодзьдзе, і Вам, напэўна, хочацца падмацаваць свой настрой чымсьці ня менш грандыёзным за гэны мяленіюм. Ідзеце на Малую сцэну Купалаўскага, дзе 3 і 4 студзеня адбудуцца прэм'ерныя паказы новага слаўнага спэктаклю. Сюжэт гэтай узьнік у VII ст. з кельцкіх паданьняў. Але вельмі хутка распаўсюдзіўся па ўсёй Эўропе ў выглядзе рыцарскіх раманаў. Прычым у кожнага народу была свая адмысловая вэрсія. Менавіта яе беларускі варыянт і ўзяў за аснову сваёй п'есы драматург Сяргей Кавалёў. Праўда, пастаноўшчыкі падправілі гэтае дзела лыжкай дзёгцю, замяніўшы беларускую назву на расейскую «Трыстан і Ізольда», мауляў, свайго беларусы «ня пойкмуць» (паставіў п'есу Мікалай Гарцуеў). Атрымаўся вельмі прыгожы сцэнічна, вельмі насычаны музычна, вельмі сьвежы, дзякуючы ўзросту выканаўцаў, спэктакаль. Каб жа ня тая лыжка...

З.Б.

## Гётэ ў «Кнігазборы»

Новая сэрыя «Беларускага кнігазбору» пад гожай сіняй вокладкай будзе прысьвечана аўтарам усясьветнае клясыкі. Пад Новы год выйшаў з друку першы том сэрыі: Ёгана Вольфганга Гётэ. Менскія кнігарні прадаюць яго не даражэй за тысячу дэнамінаваных рублёў.

## «БТіР» закрылі, БТ-2 адкрыюць

Старшыня лукашэнкаўскай тэлерадыёкампаніі Рыгор Кісель без тлумачэньня прычынаў загадаў зачыніць газэту «Беларускае тэлебачаньне і радыё». Гэта была адзіная ў краіне газэта, дзе друкавалася праграма вяшчаньня дзяржаўнага радыё і адзіная ТВ-газэта, што выходзіла па-беларуску. На БТ чакаюць рэарганізацыі. Мяркуецца, што сёлета пачне трансьляцыю другі дзяржаўны тэлеканал. Усе тэле- і радыёстанцыі ў краіне будуць падпарадкаваныя новай структуры — Дзяржтэлерадыё. Узначаліць яе, хутчэй за ўсё, цяперашні намесьнік старшыні адміністрацыі Лукашэнкі Іван Пашкевіч.

## Імбрычак-2000

У музэі Беларускай Акадэміі Мастацтваў праходзіць выстава «Імбрычак-2000, або Ўсё пра гарбату». Большасьць экспанатаў складаюць імбрычкі для запарваньня гарбаты, створаныя беларускімі скульптарамі і мастакамі. Увагу гледачоў прыцягвае імбрычак скульптара Андрэя Вераб'ёва, падобны да мужчынскіх... гэтых самых... Вераб'ёў надаўна парываўся выставіць свой эратычны імбрычак у Палацы мастацтва, але дырэкцыя ня дала.

## Вячорка сьпяваў, а N.R.M. падцягваў

Палітыкі «новай хвалі» ўзялі ўдзел у прэзэнтацыі каляднага кампакт-дыску «Сьвяты вечар-2000», якая адбылася ў менскім буціку «Каміла». Старшыня БНФ Вінцук Вячорка засьпяваў разам з музыкамі з гуртоў N.R.M. і «Крыві», песьні якіх запісаныя на кампакт-дыску, а вось лідэр Свабодных прафсаюзаў Віктар Івашкевіч пры прапанове засьпяваць засаромеўся і сышоў са сцэны. Лідэр БНФ не выключае, што маладым палітыкам варта было б выпусьціць свой уласны музычны альбом.

## 30 000 рэчаў за 40 гадоў

Літаратурны музэй Якуба Коласа адзначыў 40-гадовы юбілей. На сёньняшні дзень музэй сабраў ужо больш як 30 тысячаў асабістых рэчаў дзядзькі Якуба ды іншых экспанатаў. «Забіўшыся ў куток, стаяць валёнкі, Пра даўнія дарогі ўспамінаюць», пісаў пра гэты музэй Максім Танк. У плянах музэю — стварыць філіялы ў Пінску, а таксама — у менскай турме Валадарцы, дзе Колас праседзеў тры гады за антыўрадавую дзейнасьць і напісаў першы варыянт паэмы «Новая зямля» (тамсама сядзелі Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык, Павал Севярынец, Мікола Статкевіч, Андрэй Клімаў і іншыя).

Юрась Барысевіч

БТ вачыма беларуса

# МУЗЫЧНА-МАРСКАЯ ТЭМА

Прызвычаіліся мы сустракаць надыход Новага году хоць і па сваім часе, але тэлеканал пры гэтым глядзець расейскі. У сёлетнюю навагоднюю ноч БТ паказала, што на расейцаў можна не пераключаць. Музыка, прынамсі, і ў нас ня менш тупая, чым у іх.

Навагоднюю праграму здымалі ня звыклай студыйнай тэхнікай, а праз пэрасоўны камплект Sony, расшчодрыліся на імпартны ліналеум для пляцоўкі ў 600 кв.м. Колеры заставаліся традыцыйнымі для гэткага сьвята сіне-блакітнымі, але выглядалі па-сапраўднаму чароўнымі, асабліва на буйных плянах. Аўтары сцэнару адмовіліся ад гаварыльні, груповак за столікамі, зрабілі проста канцэртную праграму на музычна-марскую тэму з кароткімі «падводкамі» да нумароў. Размоўны жанр скарацілі да прыміты- ву. Гэтак, зьяўленьне «Палацу» анансавалі наступным чынам: «Прыміце на борт! — А што вязеце? — Сто пудоў гітоў!» Вось і ўсё развлячэньне: «Палац», «Пані Хіда», Дарафеева ў вельмі адкрытым касьцюмчыку выпрана-бэзавага колеру ды «Песьняры».

Лукашэнка ўсеўся ў экран без пятнаццаці хвілінаў Новы год, але зьлез, надзіва, безь пяці. Быў смутны, па Ельцыне тужыў. А апошнія імгненьні старога году гучала песьня па-беларуску — вельмі дзіўная, з прыпевам «Пакаемся, пакаемся!».

На гэтым тыдні на БТ будуць ісьці добрыя «Акаляда», «Абібок», «Добры вечар, Беларусь!» у сераду з праграмай для жанчынаў «Коткі». Ды кароткамэтражны мастацкі фільм у суботу «Ўрокі беларускай мовы». А на Каляды праваслаўныя будзе сем прысьвечаных Раству перадачаў, а на ОРТ — «Дзікае паляваньне караля Стаха»...

Арцём Лук'яновіч



*Уладзімір Пуцін*

# ЦАР, НЕ ПАДОБНЫ ДА ЦАРА

Яго называлі ў Беларусі Рас-Пуціным і Шала-Пуціным. Чачэнцы на сваім інфармацыйным сайце называюць яго няйнакш як «важаком расейскіх крымінальна-тэрарыстычных фармаваньняў». Ён стаў новым расейскім царом. А калі хто, апроч вечных няўдачнікаў Жырыноўскага і Яўлінскага, і кіне яму выклік на прэзыдэнцкіх выбарах 26 сакавіка, дык мае вельмі мала шанцаў на больш-менш прыстойны вынік. Рэйтынг Пуціна стабільна перавышае 60% . У Пуціну Расея знайшла страчанае на пачатку ельцынскіх рэформаў адзінства і заспакаеньне. Мужчыны бачаць у ім свайго знаёмага Вову-шпэндзіка, жанчыны — непітушчую і хай ня надта харошую, але надзейную падпору.

Некаторыя лічаць, што Пуцін можа стаць жорсткім дыктатарам, з паталягічнымі схільнасьцямі, ставячы ў прыклад вайну ў Чачэніі на вынішчэньне чачэнскага этнасу.

Іншыя, наадварот, зьвяртаюць увагу на тое, што Пуцін — фігура не харызматычная, што не характэрна для Расеі і карысна для фармаваньня дэмакратычнай сьвядомасьці.

Гаворачы пра Пуціна, часта згадваюць яму Чачэнію, «мачэньне ў сарціры», гэбісцкае мінулае і публічныя трэніроўкі па рукапашным бае. Але рэдка ўспамінаюць (ён сам лепш любіць маўчаць пра гэтыя старонкі ягонай біяграфіі), што ў адміністрацыю яго прывёў Сабчак, а ў Маскву — Чубайс, што ён быў арганізатарам першай у Расеі валютнай біржы ў Пецярбургу і намесьнікам Сабчака па эканамічных і агульных пытаньнях. Ён малады, не абцяжараны камуністычнай настальгіяй і часта носіць швэдрык і куртачку замест гальштука.

Напэўна ж, і да Беларусі ён будзе ставіцца не як сэнтымэнтальны Ельцын-цар усяе Русі, што вымушаны ўвесь час думаць толькі пра павышэньне свайго амаль нулявога рэйтынгу, а як палітык, якому ня трэба дбаць пра эфэктныя палітычныя цырымоніі ці пра выкупленьне белавескай віны перад вялікім расейскім народам. Што датычыць Лукашэнкі, дык яму на 8 гадоў можна разьвітацца з марамі пра расейскі трон.

У Пуціне няма нічога містычнага. Ён — прэзыдэнт-функцыя, функцыя ад тых сілаў, якія цяпер маюць уплыў у Расеі з улікам патрабаваньняў крайне шавіністычнага і мілітарызаванага расейскага грамадзтва.

Спакойная і гарантаваная перадача ўлады ад Ельцына да Пуціна стала вялікім дасягненьнем амэрыканскай дыпляматыі і празаходніх сілаў у самой Расеі. Спадчына Ельцына перайшла да найбольш прадказальнага з магчымых спадкаемцаў.

**Барыс Тумар**



*Лукашэнка на разьвітаньне ўзнагародзіў Ельцына ордэнам Скарыны, таго самага, чые кнігі ў Маскве палілі*

# САЮЗ ЯК БАР'ЕР У СТАСУНКАХ ДЗЯРЖАВАЎ

Падпісаная 8 сьнежня і ратыфікаваная ў Менску і Маскве дамова пра стварэньне саюзу Беларусі і Расеі моцна нагадвае сакрэтныя пратаколы да пакту Молатава-Рыбэнтропа. Перад падпісаньнем ніхто толкам ня ведаў, што там выпраўлена ў канчатковым тэксьце. Зрэшты, ня надта і цікавіліся. Эпахальная падзея — стварэньне новай эўразійскай саюзнай дзяржавы — сустракае дзіўную абыякавасьць як з боку народаў, так і з боку палітыкаў, якія робяць выгляд, што адбылося нешта само сабой зразумелае, але неістотнае.

Большасьць расейскіх грамадзянаў, — паведаміў Інтэрфакс, — увогуле не знаёмыя са зьместам дамовы. Такіх 62% . Кожны трэці (33%) ведае, пра што ідзе гаворка ў агульных рысах. Пры гэтым 69% ухваляюць дамову, што нагадвае не зусім цьвярозую застольную бяседу — ня ведаю, пра што, але — «за».

Індыкатарам у такой сытуацыі можа служыць стаўленьне да дамовы ва Ўкраіне, якую інтэгратары разглядаюць як чарговага кандыдата ў згаданы саюз. Паводле інфармацыі Інтэрфаксу, прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма заявіў, што Ўкраіна ніколі не далучыцца да саюзу Расеі і Беларусі, а самую гэтую дамову чакае складаны лёс, бо «Расея эканамічна ня можа быць ані донарам, ані крэдыторам... Калі я чую заклікі да аб'яднаньня, я кажу: давайце лепш будзем больш адкрытымі адзін для аднаго, а не будаваць бар'еры і тым самым ствараць складаныя сытуацыі», — заявіў Кучма.



*Лукашэнка з Кучмам*

Гэтаксама і Вярхоўны Савет Украіны не падтрымаў прапанову даручыць профільным камітэтам падрыхтаваць прапановы аб магчымасьці далучэньня краіны да саюзу Беларусі і Расеі, хоць з такой прапановай выступаў член фракцыі кампартыі Ул.Маісеенка.

Новы ракурс адкрываецца ў поглядзе на саюз з Украіны: аб'яднаньне стане непазьбежным бар'ерам у дачыненьнях раўнапраўных незалежных дзяржаваў — з-за розных аб'ёмаў, розных эканомік, з-за наддзяржаўнага заканадаўства і чынавенства і яшчэ з-за мноства прычын. І наадварот — саюз можа адбыцца толькі пры паглынаньні адной дзяржавы другою. Здаецца, тое, што адбываецца менавіта паглынаньне Беларусі Расеяй, бачна кожнаму. Гэта і ўхваляюць расейцы, ня ведаючы нюансаў. А мы? А ў нас не пыталіся.

**А.К.**

# ТРЫ БАГАТЫРЫ

Адзін з пашыраных стэрэатыпаў пра Нямеччыну — гэта тое, што Нямеччыны дзьве, заходняя і ўсходняя. Цікава, што ня менш значная лінія падзелу Нямеччыны пралягае між Поўначчу і Поўднем. Пры гэтым гэтая мяжа дзейсная як для старых, так і для новых земляў. Поўдзень нашмат багацейшы за Поўнач па даходах на чалавека. Тут ніжэйшае беспрацоўе, лепшыя сацыяльныя паказчыкі. Найзаможнейшымі зьяўляюцца тры зямлі: Баварыя, Бадэн-Вюртэмбэрг і Гесэн. Але й "новыя" паўднёвыя землі таксама, на дзіва, багацейшыя за сваіх паўночных суседзяў.

Прычынаў гэтага шмат, але найперш называюць гістарычна добрую сыстэму адукацыі, якая задавальняе патрэбы ў падрыхтаваных спэцыялістах для такіх фірмаў, як *Daimler-Chrysler, BMW, Audi, Opel.* Пры разьвітай аўтамабільнай прамысловасьці не забываюцца на поўдні і пра тэхналёгіі будучыні — урад Гесэну спрабуе ператварыць сваю зямлю ў цэнтар разьвіцця біятэхналёгіяў і геннай інжынэрыі.

Паўднёвыя землі вядуць больш міжнародны гандаль і больш адкрываюцца замежным інвэстыцыям, лічачы, што будучыня належыць як найбольшай адкрытасьці.

Тут, на Поўдні, імкнуцца ўсяляк зьменшыць варожасьць да іншаземцаў. Так, напрыклад, з заводаў *Flughafen AG* проста звальняюць за выказваньні супраць іншаземцаў.

Землі Поўдня пачынаюць бунтаваць супраць сыстэмы пераразьмеркаваньня фінансавых сродкаў на карысьць бяднейшых «ляндаў». Так што, магчыма, на поўдні Нямеччыны высьпявае аналяг італьянскай аўтанамісцкай поўначы, Паданіі.

**Сяргей Радштэйн**




*У Вільні на сёлетнія Каляды вырашылі зрабіць грандыёзную навагоднюю ёлку і скарыстаць на тое адну з найбольшых у Эўропе (вышыня яе 326,47 м) віленскую тэлевежу. Вежу прыбралі ў лямпачкі і назвалі гэты праект «Сьвятлом тысячагодзьдзя». Колькі там тых лямпачак — ніхто ня зьлічыць, затое гледзіцца сапраўды грандыёзна.*

**Ліцьвін**

# ЧЫЁ СОНЦА?

Індзейцы зь невялікага народу Зыя выказалі рашучы пратэст ад імя ўсіх індзейскіх плямёнаў групы Пуэбла супраць выкарыстаньня іх нацыянальнага сымбалю — знаку Сонца — у якасьці знаку штату Новая Мэксыка (ЗША). Да таго ж, той самы салярны знак выкарыстоўвае і тамтэйшая кампанія «Зыя». Уявіце сабе, каб нашу Пагоню выкарыстоўвала якое акцыянэрнае таварыства!? Знак народаў Пуэбла, што жывуць у гэтым штаце, тут можна сустрэць на кожным рагу: ад таксафонаў і паштовак да пераносных прыбіральняў. Дарэчы, сымбаль веры індзейцаў выяўлены на сьцягу штату Новая Мэксыка здаўна, ад 1925 году, і да яго ўсе прывыклі.





Але сьвятыня ёсьць сьвятыня. І індзейцы Пуэбла ўжо дамагліся прызнаньня незаконнасьці прыўлашчваньня знаку Сонца і чакаюць рашэньня фэдэральных уладаў. «У гэтым знаку — уся наша Вера», — тлумачыць сьвятар народу Зыя, Ізыдор Піна.

Цяпер фэдэральныя ўлады мусяць адказаць і на больш агульнае пытаньне: ці прызнаваць за індзейскімі плямёнамі, якіх у ЗША больш за 500, іхныя вызнаньневыя й татэмныя знакі ў якасьці іх уласнасьці, ці не. Калі так, дык індзейскія сымбалі будуць прыроўненыя да дзяржаўнага гербу. У Беларусі гэткіх праблемаў няма, хоць і ў лукашэнкаўскі герб уплішчылі Сонца. Але індзейцаў у нас замала...

**Антон Сіюль**

# НА ПЕРАВАЛЕ

Сяргей ПАЎЛОЎСКІ

Ох, і ня проста даецца гэтая пераваалка — у 2000 год. Быццам усё, чаму не наканавана пераадолець рубеж, адпадае, адвальваецца, зьнікае. Тут вам і грандыёзныя адстаўкі, і жахлівыя прыродныя катаклізмы або войны, якія імкнуцца да часу «ікс» падабраць як найболей ахвяраў, каб як найболей народу не пусьціць за тую запаветную мяжу. А вось і зусім незаўважны для публікі эпізод, калі акурат напярэдадні круглай даты натхненьне пакінула творцу і выглядае, што назаўсёды. Або — ужо толькі ўпісваючы сам гэты год у нейкія бланкі ці анкеты, адчуваеш чыста фізычны супраціў, нібы менавіта ты гэта робіш упершыню ў сьвеце — пачынаеш з двойкі. А яно ж і сапраўды так. І рука ня слухаецца. Пераправа, пераход, пераваалка. Чалавецтва ўзыходзіць на гэты грэбень, імкнучыся любым спосабам памяняць сваіх коней, абвергнуць старую прыказку. Зрэшты, для таго і існуюць аксіёмы, каб іх абвяргаць.

А тут яшчэ прадказаньні, прароцтвы ўсялякія пра канец сьвету — у поўнай адпаведнасьці з агульным кантэкстам. І калега пытаецца — што чуваць зь Японіі, ці прайшла Японія перавал, ці не адбылося там якога канца? Бо Японія ў часавых катаклізмах першая. Другі калега абвяшчае, што год будзе вісакосны, маўляў, ой, ня просты будзе год.

На сёлетнія Каляды Папа Рымскі назваў сымбалем 2000 году браму. Перад сьвяточнай імшою Ян Павал II запыніўся ў браме сабора і паказаў тэлекамэрам эвангельле. Маўляў, у новую эру ідзем з хрысьціянскімі каштоўнасьцямі. «Увайдзіце ў браму касьцёла — вы ўвойдзеце ў Хрыста!» — паўтарыў сьледам за Папам кардынал Сьвёнтак перад брамаю Менскай катэдры. І толькі пасьля гэтага ён і цэлы натоўп вернікаў за ім увайшлі ў касьцёл...

Калі акінуць вокам усю гісторыю брамаў, дык першапачатковыя асацыяцыі мы знойдзем у чалавечай фізіялёгіі. Там брама сымбалізуе прыход у жыцьцё, нараджэньне, зьяўленьне на сьвет. Прычым гэта брама з аднабаковым рухам. Але і ў часе немагчыма вярнуцца назад. Брама сымбалізуе пераадоленьне. Адсюль, магчыма, і тыя выдаткі, якія нясе чалавецтва на мяжы тысячагодзьдзяў, бо пераадоленьне вымагае затратаў або стратаў, ахвяраў.

У гэтым сэнсе паказальная гісторыя Менская брамы, той самай старажытнай, якая стаяла некалі на Нямізе ад часу ўзьнікненьня паселішча. Цяпер там станцыя мэтро — таксама славутая нядобрай славаю. Дарэчы, станцыя мэтро нагадвае браму перагорнутую, якая вядзе не ў прастору, а ў зямлю, за межы натуральнага для чалавека ўспрыманьня сьвету. Вось куды патрапіла менская моладзь, якая мінулым летам ірванулася ў гэтую браму. Ці можа нейкі злы дух ці зьбег абставінаў пагнаў іх у тую галоўную менскую браму, якая цяпер глыбока пад зямлёю? Штосьці прымусіла іх туды ўвайсьці...

Падзеі мінулага лета паказалі, што ў людзкім лёсе ня ўсё залежыць ад таго, памятаеш ты пра тое або забыў. ЯНО само нагадае. Вось жа і гэты катаклізм з падушанымі людзьмі здарыўся напярэдадні 2000 году, дадаўшы да агульначалавечых калясальных і часта незразумелых стратаў і жменю нашых, беларускіх, менскіх.

Магчыма, ня так і важна, ці ёсьць у горада брама, ці яе няма, цэлая яна або разбураная. Галоўнае, каб яна была ва ўсьведамленьні людзей і ў іхнай памяці. Інакш перад імі будзе раз-пораз паўставаць не прастора, а сьцяна. ■



# ПРАЗ ФОРТКІ, ВАРОТЫ, АРКІ...

Анатоль ПРАСАЛОВІЧ

Брама. Ці ня ў Брахме зь яго сьвятарамі-браманамі пачатак твой? Ці ня твой адбітак у велічнай Брахмапутры, што праз усю праматку Індыю коціць свае каламутныя воды ў Бэнгалію, сілкуючыся сьнегам неабсяжных гімалайскіх узгор'яў?

Што засталося ад цябе, брама мая? Слуцкая, ты стаіш самотна на радасьць куцым натоўпам турыстаў, а затлумлены нясьвіжац аббяжыць цябе, трохсотгадовую, сігане па сваіх патрэбах у твой жаўтлявы праём, што памятае Радзівілаў ды васалаў іхніх. Шмат каго ты прапусьціла праз сябе.

Няма маёй брамы, Рагачэўскай, празь якую чатырыста гадоў таму зарваўся, халера на яго, Севярын Налівайка ды папаліў места слаўнае Магілеў. Няма й варты, якая пыталася папераў у прадкаў маіх, зьбяднелай падрупкай шляхты, што ішла ў «губэрню» па сваіх справах найпільнейшых.

Холмская брама Берасьцейскае крэпасьці куляў выбоінамі плача, але зь енку ейнага зрабілі фарс-вадэвіль. Трыюмфальная арка брамы Ружанскае сёньня нагадвае ўваход у калгасную фэрму.

У колішнім сапегаўскім палацы каго толькі ні стрэнеш: тут табе і каровы, і індыкі, і паўсюдныя пеўні нацыі беларускай.

У Менску з брамаў захавалася хіба што Кальварыйская. «Рах vobus», — абвяшчае яна. «Мір вам»...

Дый мірскія брамы, што некалі баранілі край мой, сталіся цяперака проста мірнымі. Мірнымі сузіральнікамі свайго скону. Нікому, відаць, не патрэбныя вы, брамы зямлі беларускай, бо й брамнікаў ужо нямашака.

Адно, бадай, у футболе спамянецеся вы раз-пораз, калі не паклічуць вас «варотамі».

Ці ня ў брамах бярэмя справы нашай, ці ня ў іх сынтэз беларускай ідэі?

У нас у вёсцы брама завецца «хвортка». Ад лацінскага «fortus» — моцны.



Раўнютка дзесяць гадоў таму немцы Заходняга ды Ўсходняга Бэрлінаў упершыню за амаль паўстагодзьдзя сустракалі Новы год разам, відома ж, пад Брандэнбурскай брамай. Божа, а калі ж і мне ўжо пашчасьціць на шчодрык быць пад віленскай Брамай Вострай? ■

# МЕНСКАЯ БРАМА

Сяргей ХАРЭЎСКІ

Была свая Брама і ў Менску. Яе бачылі ваяры, што біліся на Нямізе ў 967 годзе. У той браме наверсе была капліца. Паводле паданьня, там перахоўваўся цудадзейны абраз Маці Божае, напісаны Сьвятым Лукой. Патрапіў гэты абраз з Канстантынопалю, прыплыўшы цераз мора, уверх па плынях беларускіх рэк. У часы войнаў і пошасьці абраз плакаў, папярэджваючы пра беды. Ён і цяпер у Менску, у праваслаўнай Катэдры...

Менская брама прастаяла стагодзьдзі, ажно пакуль зямля не паглынула яе. Нават выяваў не засталося. Усё XX ст. браму шукалі археолягі. Фантазія малявала ім рознае. Гэтак археоляг Загарульскі зрабіў гіпатэтычную рэканструкцыю Менскае брамы, вялізнай, зь дзьвюма груваcткімі вежамі. Макет Менскага замку з прыдуманай брамай паставілі ў музэі. Пакуль не была знойдзеная сапраўдная брама, гэтая фантазія ўважалася за сымбаль нашае гісторыі. Нягеглая, прымітыўная, дзікаватая: тры прастакутнікі пад стрэшкамі. «Браму Менску»



шматкроць выяўлялі на значках, плякатах, капэртах, у манаграфіях і падручніках. Тады й прыйшла ідэя пабудаваць у Менску браму паводле «праваобразу». Яна павінна была стаць трыюмфальнай брамай усёй БССР. Быў створаны творчы калектыў на чале з архітэктарам Рубаненкам, у склад якога ўвайшлі будаўнікі з Масквы ды Ленінграду.

Будаўніцтва на Прывакзальнай плошчы закончылі ў 1956 годзе. Брама складалася з двух адзінаццаціпавярховых дамоў-вежаў. Савецкі міт пра беларускую гісторыю стаў адпаведным міту пра савецкую рэчаіснасьць. Верхнія ярусы, з гадзіньнікам і гербам БССР, былі густа застаўленыя неверагоднымі шпілямі. А па кутах першага ярусу стаялі бэтонныя скульптурныя групы: сяляне, рабочыя, інтэлігенты, моладзь... І паўсюль, нібы ёлачная мішура, — выявы кветак, слуцкіх паясоў і нават зуброў. Але неўзабаве ўсё гэта пачало аблятаць. Савецкая «брама», як і іншыя савецкія міты, апынулася няякаснай дэкарацыяй. Адзіная дэталь, што трывала вісіць на сваім месцы дагэтуль, — гэта герб БССР...

А ў 1984 годзе знайшлі сапраўдную Менскую браму. Яна аказалася зусім ня гэткай, як яе ўяўлялі раней. Гэта была шматпавярховая вежа, якая «ўрастала» ў вялізны штучны вал, складзены з камлёў і шчыльна забрукаваны. Раскопкі штодзень прыносілі дзіўныя адкрыцьці. Напрыклад, ля самае Брамы, на дне шматмятровага катлавану знайшоўся... жывы калодзеж. Калі вычарпалі колькі вёдраў, знайшлі залаты пярсьцёначак з надпісам: «каханаму...» А Браму пасьля закапалі назад. Мэтрабудаўцы хацелі яе наагул зрыць. Але людзі не дапусьцілі. Пакуль будавалі мэтро, была ідэя зрабіць рэстаўрацыю. Таму гэтую станцыю праектавалі марудна й нестандартна. Усе раскопкі ашчадна закансэрвавалі. У пераходзе станцыі «Няміга» й дасёньня за жалезнымі дзьвярыма й бэтоннымі плітамі схаваная Менская брама... У завірусе найноўшых часоў пра яе забылі. ■



# КАЛЯНДАР НА БУДУЧЫНЮ

Неяк каля першай гадзіны начы стаялі мы з прыяцелем на пляцформе менскага мэтро і няўцямна сачылі за бегам электрычных сэкундаў-лічбаў на гадзіньнікавым табло. Дзевяць хвілінаў, сорак пяць сэкундаў. 44, 43, 42, 41... Твар прыяцеля выказваў калі ня жах, дык зачараваньне. 13, 12, 11... Мы ведалі, што мусіць высьветліцца празь дзесяць сэкундаў. «Усё — гамон», — ціха прамовіў прыяцель, калі на табло загарэліся лічбы «00.00.00».

Нуль — гэткая ж абстракцыя, як і лінія ці кропка. У наступным стагодзьдзі мы будзем казаць «гэта здарылася ў трэцім годзе», «на пачатку восьмага», «узроўню трынаццатага». Але ніколі ніхто ня скажа: «Мы з жонкай пазнаёміліся ў нулявым годзе». Нуль — вялікае Нішто. Для будыста сэнс жыцьця — гэта зьнікнуць бясьсьледна. Гэта такая ж звышсіла, як і вялікае Ўсё — Бог. Таму ў наступным стагодзьдзі-тысячагодзьдзі мы будзем распавядаць пра падзеі «дзьвюхтысячнага», а не нулявога. Бо нуль — недасяжны розуму чалавека, як усё, што ЗВЫШ: «Колькі каштуе лядоўня? — 80000000. — А гэта колькі грошай?.. А, сто баксаў? Тады бяру».

Вядома, ЗВЫШ мае магічную сілу. Нам ня важна, калі насамрэч пачынаецца наступнае стагодзьдзе. Галоўнае, што дзявяткі ў календары мяняюцца на нулі. Пачынаецца Новае... Можа і тысячагодзьдзе, але галоўнае — жыцьцё. Гэтак, як замяняецца прозьвішча ў пашпарце. Але хто захоча даведацца, калі пачынаецца трэцяе тысячагодзьдзе, хай адыме ад 1999 году 2000. Ясна, атрымае мінус адзін, бо ж, нулявога году не было.

Памятаю, як у дзяцінстве я трымцеў ад усьведамленьня таго, што я буду жыць у наступным тысячагодзьдзі, як вылічваў, колькі мне будзе гадоў, і што я буду адчуваць пры «нуль-транспартыроўцы» — скачку ў прасторы. Падлеткам я даведаўся, колькі ўсяго было ў гісторыі за папярэднія тысячу гадоў, і начытаўся фантастыкі з мадэлямі падзеяў наступнага. Мне здавалася, што праз імгненьне, якое раздзяляе тысячагодзьдзі я стануся спрычасным да ўсяго, што адбудзецца ў будучыні...

Я пішу гэты тэкст 31 сьнежня 1999 году ў другой палове дня. Містычнасьць сытуацыі, якую я маляваў у дзяцінстве і трымценьне перад нулямі дагэтуль сядзяць у маёй сьвядомасьці. Але варта адарвацца ад клявіятуры і зірнуць за вакно, як ты разумееш, што нічога ня зьменіцца ў нашым жыцьці хутчэй, чым мы таго захочам.

Але мы назаўжды застанемся «людзямі мінулага стагодзьдзя». Гэта будзе адчувацца тым больш выразна, чым болей будзе вырастаць людзей, народжаных пасьля дзьвюхтысячнага году. Рэальна наступнае тысячагодзьдзе прыйдзе тады, калі не застанецца ніводнага чалавека «зь мінулых часоў» — нас.

Не забыцца пра гэта дапамогуць лічбы на НАШЫМ КАЛЕНДАРЫ.

Севярын Квяткоўскі

Сяргей ШУПА



Здымкі з архіваў Сяргея Шупы і Віялеты Кавалёвай

# 20 ГАДОЎ АД ПАЧАТКУ

На сёлетнія Каляды споўнілася дваццаць гадоў з дня ўзьнікненьня Беларускай Сьпеўна-Драматычнай Майстроўні. Не адно магутнае сёньня палітычнае, культурнае, мастацкае дрэва вырасла з таго колісь амаль незаўважнага гарчычнага зярнятка. Дзеля таго што Майстроўня йснавала за часы позьняга камунізму, яе дзейнасьць засталася амаль незадакумэнтаваная ў адкрытых крыніцах, і сёньня, апрача кароткага артыкулу ў Энцыкляпэдыі Гісторыі Беларусі, пра яе бадай што нічога не прачытаеш.

Між тым, Майстроўня сталася першым у постсталінскай Беларусі арганізаваным беларускім рухам з выразнымі палітычнымі незалежніцкімі тэндэнцыямі. Прычым узьнікла яна зусім стыхійна. Гэта быў прыход новага пакаленьня.

Маё пакаленьне нарадзілася пасьля славутых хрушчоўскіх пэрформансаў, калі з штодзённага жыцьця людзей зьнік страх. Пабудова камунізму з трагедыі ператварылася ў фарс-вадэвіль, і стаўленьне да ідэалёгіі прасякнулася глыбокім цынізмам. Нашай крывёю сталася заходняя рок-музыка, якая наталяла нас пратэстам і адпорнасьцю да індактрынацыі. Наш інфармацыйны сьвет фармавалі замежныя радыёстанцыі. Да ўсяго гэтага дадаўся мясцовы каларыт: блізкасьць Польшчы, уздым гістарычнага краязнаўства з рамантызмам замкавай і культавай архітэктуры, частыя візыты ў падсавецкую Прыбалтыку, якія прымушалі задумацца — чаму мы не такія, як яны. Усё гэта разам мяшалася ў нейкую выбуховую сумесь, і дастаткова было прынагоднага каталізатару, каб адбылася непазьбежная рэакцыя, калі раптам адчуваеш, што ты — «беларускі буржуазны нацыяналіст». Для каго-сьці гэткім каталізатарам былі кнігі Караткевіча, для іншых — нечаканае знаёмства з забароненай беларушчынай — менскай 20-х гадоў, віленскай, паднямецкай. І як неверагодна прыемна тады было адчуць, што гэтая гнюсная брэжнеўская саветчына, гэтая псэўдабеларуская бээсэсэршчына — усё гэта не тваё, ты гэтаму не належыш і за яго не адказваеш. А тваё — вось яно, тут, пад нагамі: твая зямля, твая гісторыя, твае дзяды ў вёсцы зь іхнай свойскай мовай, звычаямі, песьнямі і незраўнанай жытняй гарэлкай.



Усё пачыналася са сьпеваў. Другая зьлева — карэктарка «НН» Віялета Кавалёва, трэці зьлева — лідэр БНФ Вінцук Вячорка, трэці справа — Сяргей Шупа

І вось гэткі — абуджаны, ці, калі хочаце, інфікаваны — ты разглядаесься навокал і непазьбежна сустракаеш падобных на цябе. І радуесься з адчуваньня, што ты — ня хворы, не адхіленьне, не выломак з сыстэмы. Ты — нармальны, ты не адзін, ты — частка ІНШАЙ сыстэмы.

Такая фэрмэнтацыя адбывалася ў нашых галовах і душах пад канец 70-х гадоў. Паасобныя кроплі беларускай іртуці пачалі зьлівацца разам у нейкую цэласьць. Так увосень 1979 году на філялягічным факультэце БДУ ўзьнікла кола сяброў, да якіх далучыліся студэнты Тэатральна-Мастацкага Інстытуту, а пасьля і іншых менскіх ВНУ, якія ўтварылі Майстроўню. У адрозьненьне ад папярэдняга пакаленьня «адраджэнцаў», інтравэртаў-падпольшчыкаў, майстроўцы ад пачатку былі запраграмаваныя на пашырэньне, на пошукі кантактаў, на агітацыю, на інфільтрацыю ў розныя пласты беларускага соцыюму. Найпрыдатнейшай формай тады сталася ладжаньне традыцыйных сьвятаў і відовішчаў — Калядаў, Гуканьняў Вясны й Купальляў. Першай акцыяй сталася калядаваньне ў менскіх вуліцах і дварах у 1979-м. Прычым рабілася гэта на прыстойным мастацкім узроўні, дзякуючы высокапрафэсійнаму кіраўніцтву кампазытаркі Ларысы Сімаковіч.

Ад таго часу ладжаньне сьвятаў сталася традыцыйным. Побач з гэтым урабляалася й драматычная глеба — быў пастаўлены шэдэўр беларускага народнага тэатру «Цар Максымілян». Аднак пад абалонкай усёй гэтай рэпрэзэнтацыйнай дзейнасьці адбывалася галоўная акцыя — фармаваньне глыбінных палітычных структураў. Рабілася гэта ў глыбокай канспірацыі, колам найбольш надзейных і заангажаваных.

Апошняй публічнай акцыяй Майстроўні сталася стыхійнае пікетаваньне пад час збурэньня будынку менскага гарадзкога тэатру на Пляцы Волі 13 чэрвеня 1984 году, якое скончылася затрыманьнем і начной адседкай у пастарунку. Рэпрэсіі ўладаў і індывідуальны ціск з боку КГБ зрабілі далейшае існаваньне Майстроўні немагчымым.

Аднак беларускага джына было ўжо немагчыма запхнуць назад у бутэльку. Кола Майстроўні, нібы той Пратэй, пачало ўцелаўляцца ў іншыя творы — Клюб імя Караткевіча, «Талаку», «Тутэйшых» ды ў дзясяткі іншых, як іх тады абзывалі камсамолы, «нефармальных арганізацыяў моладзі». Адбывалася гэта ўжо за Гарбачова, і было сьмешна, калі гэтых «нефармалаў» позьнесавецкія публіцысты называлі «дзецьмі перабудовы». Гэта былі нашчадкі Майстроўні, якая сама ў гэтым сэнсе была хіба што «дзіцём» Брэжнева і Халоднай Вайны.

З агульнай лібэралізацыяй канца 80-х, калі ўжо стала «ня страшна» адкрыта гуляць у палітыку, на беларускую палітычную арэну выйшлі і старэйшыя пакаленьні «адраджэнцаў», зьліўшыся з постмайстроўскай плыньню ў адзіны фронт, які назваўся Беларускім Народным. Гэтак пачалася новая гісторыя, пра якую ўсе добра ведаюць.

Неяк я прывёў на адну з майстроўскіх сходак свайго інстытуцкага сябра, крутога дысыдэнта. Ён тады ўважліва агледзеўся і запытаўся сам у сябе: цікава, што будзе з усімі імі гадоў праз 15—20? А ў той кампаніі, або крыху раней, або крыху пазьней, або недзе побач зь ёю былі тады 20-гадовыя Вінцук Вячорка, Сяргей Запрудзкі, Сяргей Дубавец, Генадзь Лойка, Сяргей Сокалаў, Алесь Суша, Віктар Івашкевіч, Алесь Бяляцкі, Сяргей Харэўскі, Адам Глёбус, Уладзімер Арлоў...



Сяргей Шупа, галоўны рэдактар радыё «Балтыйскія хвалі»

# СІЛА ЎПЛЫВУ

**Ларыса Сімаковіч, арганізатарка першага пікету супраць разбурэньня будынку тэатру, музычны кіраўнік Майстроўні, а цяпер кіраўнік дзіцячага ансамблю беларускага тэлебачаньня «Госьціца», лічыць, што яе з Майстроўняй зьвёў той выпадак, які заканамерны.**



Ларыса Сімаковіч вучыць Майстроўню сьпяваць.

— Пачалося ўсё з сустрэчы ў Мастацкім Музэі на лекцыі мастацтвазнаўцы Надзеі Высоцкай, аўтаркі манаграфіі «Абразы Беларусі». На гэтыя лекцыі неяк самі сабою сьцякаліся цікаўныя, тыя, каму гэтыя праблемы — мовы і мастацтва — балелі. Распавядала яна па-расейску, я ёй задала нейкае пытаньне. І мяне неяк прыкмецілі Вячоркі, якія ўжо былі разам, але яшчэ ня мужам і жонкаю, падышлі да мяне з просьбай дапамагчы развучыць калядныя песьні, паколькі я музыка.

**— Ці згодныя Вы з тым, што гэта быў першы ў пасьлясталінскі час арганізаваны беларускі рух?**

— Тады я пра гэта ня думала. Цяпер магу пагадзіцца. Бо мы супрацьстаялі.

Я і цяпер кажу сваім выхаванцам: адзінае, чым можна супрацьстаяць гэтай пануючай шэрасьці — гэта сваёй беларускай мовай. У мяне ў «Госьціцы» дзяўчынкі, таму я ім кажу: «Са зброяй вы ня выйдзеце, нават на мітынг ня пойдзеце, бо вы дзяўчаты, а там невядома як скончыцца, дык вылучайцеся хоць мовай».

Я працую на БТ. Я тут можа адна з усяго трох-чатырох беларускамоўных. Але, працуючы на БТ, дзяржаўным тэлебачаньні, я ўсё раблю супраць дзяржавы — такой дзяржавы, якая ўсё робіць супраць мовы, мастацтва, культуры.

**— Вы верыце, што адзін з тых, каго Вы вучылі сьпяваць у Майстроўні, можа ўзначаліць беларускую дзяржаву?**

— У жыцьці й цуды здараюцца, а гэта са сфэры рэальнага. Вячорка — гэта найлепшы варыянт для Беларусі, у прыстойнасьці ягонай я не сумняюся, у тым, што ён нясе з сабой сьветлае, добрае, нетрывіяльнае. Чалавек, які прайшоў шлях Майстроўні, прасякнуўся маладосьцю, апантанасьцю, сьвятлом, аптымізмам. Калі ён прыйдзе да ўлады, ён будзе не пустым, не выпадковым, як цяперашні кіраўнік, а поўны гэтым сьвятлом.

**— Ці стала ў грамадзтве за гэтыя 20 гадоў болей нон-канфармістаў ці меней, і ад чаго залежыць іхная колькасьць?**

— Ня ведаю. Я працую з аднадумцамі, і мы на працы абмяркоўваем тое, пра што гавораць і на кожнай кухні: Марш Свабоды, палітыку... Да нас у ансамбаль прыходзяць розныя падлеткі. Як і ўсе падлеткі, яны прагнуць з аднаго боку быць, як усе, а з другога, ня быць такім, як усе падлеткі. Мы тут іх выхоўваем.

Маю выхаванку Маню Сазонаву ў Беларускай Акадэміі Мастацтваў — яна на курсе ў Раеўскага — віншуюць з Днём нараджэньня 21 сьнежня, вывешваючы на дратах над праспэктам насупраць Акадэміі бел-чырвона-белы сьцяг. Вось які ўплыў зрабіла на сваіх калег мая выхаванка сваёй беларускамоўнасьцю і асобай. Я шчасьліва, што ў мяне такія выхаванкі. Гэта пра сілу ўплыву.

**— Рэпрэсіяў тады баяліся?**

— Сіла і энэргія маладосьці засьціла наступствы. Мы пра гэта ня думалі. Але калі пад'ехаў козьлік, і нас забралі пасьля першага пікету і пратрымалі ў пастарунку ноч, аказалася, што мы ўнутрана гатовыя да гэтага.

Рэпрэсіі былі. Мяне выгналі з Кансэрваторыі... Неафіцыйна, не наўпрост за гэта. Цяпер я ў «Госьціцы». Прыемна, што пасьля таго, як наша «Госьціца» 25 траўня паказала ў Філярмоніі спэктакль «Жах. Сучасная байка» нехта зьмясьціў у «НН» прыватную абвестку «Няхай жыве «Госьціца».

Гутарыў А.П.



Фота Алеся Лубнеўскага

*Зь лістапада мы падарожнічаем «менскімі нетрамі», адкрываючы відавочныя, але незаўважаныя куткі беларускага мэгаполісу. Сёньня вясковы лірнік павёў нас у іншую дарогу — ад сяла да сяла, ад хутару да хутару, у нетры Беларусі, да яе сэрца. Тапаграфія і фізіялёгія беларускай вёскі — у новай рубрыцы «Нашай Нівы».*

# ДУДЗІЧЫ



Калі б гадоў зь дзесяць таму хто-небудзь сказаў мне, што хутка пра нашыя старыя Дудзічы не спамяне толькі хіба якая зусім цьмяная менская газэта, што пацягнуцца па новай — бязь ямінаў ды агромністых калюжын! — гравейцы калёны чырвоных «Ікарусаў» з абыякавымі шкалярамі, бялюткіх «Нэаплянаў» зь цікаўнымі немцамі й французамі ды самазадаволеных даражэнных самаходаў зь нетаропкімі тлустымі бізнэсоўцамі, я б, напэўна, шчыра расьсьмяяўся. І, як відно, дарэмна...

Старадаўнія Дудзічы дзьвюма скрыжаванымі вуліцамі палеглі на адлогай тэрасе разважлівае цягам году, але шалёнае ўвесну Пцічы. Калісьці людзкое селішча й рака жылі адным супольным жыцьцём. Вадою зьяжджаліся купцы на славутыя дудзіцкія кірмашы, што ладзіліся ледзьве ня кожны месяц; вада, абрынаючыся на колы вялікага млыну, малола тутэйшую збажыну на лёгкую хлебную муку; на вадзе сьцішаных пціцкіх старыцаў ды адмысловага каналу для веславаньня, гайдаючыся на хвалях у лодках, спачывала гарачаю летняю парой шляхецкая моладзь з панскага маёнтку — родавага гнязда Ельскіх. Так было. Сёньня скалечанае жыцьцё чалавечае грамады, лічы, ніяк ня лучыцца са спакойным рухам цёмнае рачное вады. Хіба што часам лядашчая вясковая моладзь, сабраўшыся несуладнаю гурай ды закінуўшы драціну на слуп, наглушыць жменю драбнюткіх плотак ці ментузоў, або ўваліцца ў ваду дурное калгаснае цяля.

Цяперашнія Дудзічы складаюцца зь пяці частак. Раён скрыжаваньня вясковых вуліц носіць сакавітую назву Крыжык. Уласна Дудзічы горнуцца да праваслаўных могілак і крамы. Пятнаццаць хатаў, што непасрэдна суседзяць з ракою, раскінутыя па абодвух берагох ды злучаныя хісткімі кладкамі (старадаўні драўляны мост разам з млынам спалены ў вайну савецкімі партызанамі), носяць назоў Пціч. Паўсталы цягам сацыялістычных пяцігодак усходні працяг вёскі зьдзекліва названы Культурай. Пятая ж частка — зусім новая вуліца аднолькавых калгасных катэджаў — безназоўная. Ёсьць тут, аднак, яшчэ адна дзівосная старадаўняя назва — Кобань. Але гэта ўжо сумная й непрыгожая старонка тутэйшае найноўшае гісторыі.

За саветамі Дудзічы забыліся на сваю даўніну. Дзіўна, але правёўшы тут добрую палову дзяцінства, я ўпершыню даведаўся пра славутых Ельскіх, Уладзімера Дудзіцкага ды Ўладзімера Хадыку толькі значна пазьней і з кніжак. Вяскоўцы памятаюць сёньня толькі, што быў калісьці ў Дудзічах пан. З цэглы раскіданага яшчэ на пачатку бальшавіцкага часу панскага палацу, фактычна на ягоным падмурку, калгас збудаваў велькі сьвінарнік. Прастаяў ён няшмат, і сёньня ня знойдзеш тут ані палацу, ані сьвінарніку, ані хаця тае старадаўняе цэглы. Толькі крапіва шугае вышэй за чалавечы рост. Згадкаю мінуўшчыны засталіся адно зарослыя лазой рэшты веславальнага каналу, што пераразаў колісь пляскатую шыйку лукавіны Пцічы, ды яшчэ Кобань...

Кобань (ці Кобан) — гэта сорам Дудзічаў. Пачынаючы зь пятага стагодзьдзя да нашае эры, аж да пятага стагодзьдзя нашае тут было гарадзішча. Пазьней, напэўна, стагодзьдзі ў шаснаццатым (зь якога, дарэчы, і вядомае мястэчка Дудзічы) на гэтым жа месцы паўсталі каталіцкія (калі дакладна, дык уніяцкія) могілкі. З канца ж дваццатых гадоў нашага стагодзьдзя Кобань была занядбаная ды паступова пачала наўпрост зьнішчацца. Спачатку людзі расьцягнулі цэглу, зь якое былі збудаваныя фамільныя шляхецкія склепы. Потым высеклі магутныя хвоі, што ў два шэрагі абкружалі калісьці узгорак, дзе месьціліся могілкі. Нарэшце ж, падагнаўшы пачвары-экскаватары, пачалі зрываць сам узгорак, звозячы каштоўны ў гэтых гліністых мясьцінах пясок на калгасныя будоўлі. Добра памятаю, як хлапчанём, рыючыся ля падножжа адвеснае пясчанае сьцяны кар'ера, раптоўна выграб пабіты расколінамі надмагільны камень. Мне тады зрабілася страшна...

Дзякаваць Богу, сёньня становішча крыху выпраўляецца. Знайшлі ды аднавілі пахаваньні некаторых Ельскіх, у прыватнасьці, Аляксандра Карлавіча, паставілі ды ўсьвяцілі памятны крыж. На невялічкай пціцкай выспачцы паўстала драўляная пастава музыкі са скрыпкаю, гэтак падобная на Міхала Ельскага. Ужо колькі гадоў у Музэі матэрыяльнае культуры, збудаваным за ракою на ўскрайку пасёлачка Пціч, ладзяцца «Ельскія чытаньні» ды «Фэсты старасьвецкае культуры». Але ж і гэтая тычына аб двух канцох...

Зусім недалёка ад апошняе пціцкае хаты была даўней мясьціна, што называлася Галімшчына. Зарослы мурогам каменны падмурак хаты, перарывісты земляны валок на месцы хлява, спадзістая яміна там, дзе месьціўся калодзеж, круглая сажалка зь векавымі пахіленымі вербамі, старая вузлаватая ігруша. Раней тут быў хутар. Кажуць, ягоны валадар Галімскі быў дужа спраўным гаспадаром. Адно сьвіней трымаў цэлы статак. Дзеля гэтае нагоды ён адгарожваў велькі кавалак забалочанага ды зарослага лазьняком ляснога берагу. Відаць тутэйшыя ваўкі былі ня надта прагныя, затое белыя сьвіньні з гэтае загарадкі часта парасіліся палошчатымі парсючкамі-дзічкамі... За бальшавіцкім часам Галімскі з усёй сям'ёй быў забіты. Але Галімшчына засталася ўтульнаю ды прывабнай, крыху загадкаваю й чыстай. А побач адзінокаю лясною выспаю пасярод зялёнае лугавіны ківаў вершалінамі маленькі яловы барок.

Сёньня Галімшчыны няма. Якраз на яеным месцы і збудаваны вядомы ўжо Музэй матэрыяльнае культуры. Высокія сьпічастыя дахі, гасьцёвыя залі, пякарня, ганчарня, кузьня, выставы старадаўняга сялянскага начыньня ды «аўта-рэтра». Яшчэ канюшня зь верхавымі коньмі, хлеў зь дзясяткам кароваў, авечкамі, козамі, аслом ды поні; зробленыя на стары манер фурманкі ды маленечкі бровар на мясцовыя патрэбы. А яшчэ... завалены сьмецьцем колішні яловы барок, спляжаная кінутым жалезьзем, дротам, трубамі і скамянелым цэмэнтам сенажаць ды нахабныя бамбізы-ахоўнікі. Афіцыйна гэта называецца музэй Дудуткі, а праміж сабой — зусім не прыгожым старадаўнім назовам Галімшчына, а жахлівым словам «прамзона».

Увечары, калі ўсе чужынцы-візыторы зьяжджаюць нарэшце дахаты, на вёску зноў апускаецца цішыня. На сакавіта чорным небе ясачкамі бліскаюць дрыготкія зоры, і чуваць, як задуменна бруіць пціцкая вада, саскокваючы з рэштаў колішняе плаціны. Дудзічы.

Андрэй Захаранка





# ГОРКІ-РОК

У мінулы панядзелак у Горкі, што на Магілёўшчыне, на запрашэньне магілёўскага таварыства «Кола сяброў» і горацкай Сельскагаспадарчай Акадэміі рушылі беларускія рокеры. Упершыню за больш як чатырохсотгадовую гісторыю гораду мясцовыя рок-фэны чакалі «Ulis», «Новае Неба», «Палац», «Краму» і загадкавы гурт «Чыстае неба». Так атрымалася, што замест трох апошніх былі «Цмокі» — каманда, народжаная ў сьценах філфаку БДУ, праз што вызначацца сярод найноўшай хвалі ня толькі добрай музычнай энэргетыкай, але й дасьціпнымі тэкстамі. «Цмокі» прызналіся, што горацкі выступ — для іх калядны падарунак, бо дзякан забараніў іхны выступ на філфаку ў гэты дзень. Kasia, Slava & C° засталіся задаволеныя сваімі «разагравальшчыкамі». А публіка балдзела ад патройнай прэзэнтацыі: улісавага «Падарожжа», Касіных «Цэпелінаў» і цмокавай адзінай-першай праграмы. А музыкі кайфавалі ад якаснай апаратуры і шчырасьці публікі.

Пад уражаньнем ад цёплага прыёму і ветлівасьці мясцовае міліцыі (уявіце сабе маёра, які а першай ночы ціхенька грукае ў гатэльны нумар, просіць «ня шумець»; прычым — «пажалуста») яны забыліся на дробныя непрыемнасьці пачатковага этапу выправы — адсутнасьці ў краіне саляркі, з-за чаго на месца музыкі прыехалі літаральна за пару хвілінаў да канцэрту.

Скуль у Горках сотні беларускіх фанаў-альтэрнатыўшчыкаў — пакуль застаецца загадкай. Але студэнты пераконвалі музыкаў, што калі тыя прыедуць яшчэ раз, дык канцэрт можна ладзіць на пляцы. А пра тое, што горацкая Акадэмія — гэта Alma Mater аднаго Першага Прэзыдэнта, удзельнікі ўзгадалі толькі калі пабачылі гаротны стан гатэлю. Ды адразу ж забыліся, бо завязалася прыязная бяседа з нашымі беларускімі «горцамі». Вырашылі, што ў Горках трэба ладзіць фэстываль. А пазьней перанесьці туды беларускую рок-сталіцу і перайменаваць месца назад у Горы.

**Ян Качулка**

Падтрымаўшы ініцыятыву НАШАЙ НІВЫ «ДЗЕНЬ БЕЗ ЧУЖОГА СЛОВА», Беларуская Музычная Альтэрнатыва прапануе адмовіцца таксама і ад чужой музыкі. Распачынаецца акцыя ***«СЛУХАЙ СВАЁ! ПАТРАБУЙ БЕЛАРУСКАЕ!»***. Асаблівая ўвага ў гэтай акцыі надаецца FM-станцыям. Усім беларусам прапануецца тэлефанаваць на радыё, віншаваць сяброў з нацыянальнымі сьвятамі і замаўляць толькі беларускія песьні.

FM-станцыі ня супраць пускаць у эфір беларускія кампазыцыі, але якасьць аўдыёкасэтаў (большасьць беларускай музыкі выдаецца менавіта на іх) іх не задавальняе. Таму БМА разаслала ўсім беларускім і некаторым замежным радыёстанцыям CD «ВОЛЬНЫЯ ТАНЦЫ: СЛУХАЙ СВАЁ!», выдадзены сумесна зь Беларускім Гельсынскім Камітэтам, на якім ёсьць запісы практычна ўсіх беларускіх гуртоў. Таксама на радыёстанцыях пачалі зьяўляцца і іншыя кампакты айчынных гуртоў: «Крамы», «Тройцы», «Крыві», «Улісу», «Палацу», «Новага Неба», «Бонды», «NRM».

Будзем спадзявацца, што з нашай і Вашай дапамогай сытуацыя зьменіцца.

Зацікаўленым у супрацоўніцтве з БМА можна зьвяртацца: а/с 5, Менск, 220085.

| Радыёстанцыя | Форма заяўкі | Час выкананьня заяўкі |
|---|---|---|
| «Рокс» | факс: (017) 2134013<br>ліст: 220002 Менск, Старажоўская 8-а<br>пэйджар: 2110000 (аб.Радыё Рокс) | Мінім'юзікбокс: на працягу дня;<br>максым'юзікбокс: нядзеля з 19 да 21;<br>Пазначайце час і дату заяўкі. |
| Радыё «Бі-Эй» | ліст: 220034 Менск, Чапаева, 5.<br>Тэл.: (017)2100901 з 22: 00 | на працягу дня |
| «Маладзёжнае радыё» 1-ая праграма Беларускага Радыё | ліст: Менск, Чырвоная, 4 (Маладзёжнае Радыё)<br>Тэл.: жывога эфіру (017)2846935 | па пятніцах з 22:00<br>пятніца з 22:40 |
| «Мір» | ліст: Менск, Камуністычная, 6.<br>Тэл.: (017) 2366777 | «Вагон пажаданьняў» — на працягу дня, прамы эфір. |
| 2-я праграма Беларускага Радыё | Ліст: Менск Чырвоная 4<br>Тэл. жывога эфіру: (017) 2101248 | штодзень з 12:00 |
| «Сталіца» | ліст:Менск, Захарава, 42 (Канавалава)<br>Тэл.: (0172) 2100367 | штодзень з 13-14 |

дыскаграфія

# Беларуская Расея

«Кострома», «Иван Купала», студыя «Союз» — «Бульба рэкардз» 1999




Што для нас расейскі фальклёр? Упэўнены, мае асацыяцыі блізкія да сярэдніх: гэта булькаваньне балалаек, о-ох-і у-ух-і прыпевак, нешта «разудалае», накшталт «Камарынскай», ды, на сучасным этапе, нацягнутае пішчаньне «Залатога кола». І да ўсяго гэтага — аніякіх радасных пачуцьцяў ды асабліва станоўчых эмоцыяў. Усё добра знаёмае зь дзяцінства. Чаму так адбываецца, цяжка сказаць (ніякая палітыка тут ні прычым), але відавочна, што калі паміж сваім і ірляндзкім, францускім фальклёрам, фольк-мадэрнам беларус хутчэй выбера і тое, і другое, дык паміж расейскім і эўрапейскім — другое. Вельмі ўжо далёкая ад нас расейская разухабістасьць, дый мэлёдыка чужая.

І, здавалася, што можа зьмяніць перадсуды да расейскага фальклёру? Хіба зьявіцца яшчэ адзін беларускі этнамузычны праект — дый яшчэ больш пашырыць прорву паміж двума братнімі народамі... І вось зьяўляецца мадэрновы праект чыста расейскіх хлапцоў — Аляксея Іванова, Аляксея Румянцава і Дзяніса Фёдарава — з такой роднай назвай «Іван Купала», і адразу робіцца ў нас вельмі папулярным. Радыёстанцыі пазнаёмілі слухачоў толькі зь дзьвюма песьнямі, але гэтага хапіла, каб зрабіць невялічкую рэвалюцыю. Прычына вялікай зацікаўленасьці (прынамсі, як я для сябе фармулюю) — вялікае зьдзіўленьне. Ну настолькі гэта нязвыкла-расейскае! І сама назва — не «Купало» якінебудзь, а менавіта «Купала», і гаворка бабуляў (знакамітае з радыё-гітоў «палячыцеся»); і, галоўнае, сама мэлёдыка ды гучаньне, што сьпеваў, што музыкі. Гэта ж хутчэй, умоўна кажучы, крывіцкае — наша! Аранжаваньне мадэрновае. Так і бачыцца за гэтым стары добры «Палац» менскі, а не далёкі Пецярбург, адкуль родам «купалаўскія» музыкі. Адкуль гэткае?! Чаму?!

«Иван Купала» проста патрабавау сябе набыць. Пасьля чаго зьдзіўленьні і замілаваньні прадоўжыліся. Касэта зробленая на найвышэйшым узроўні — ня толькі добры запіс, але й шматстаронкавая вокладка, дзе зьмешчаныя тэксты ўсіх (без адной) песень. І як пацешна (асабліва ўлічваючы, што ў нас «Кастрама» прадаецца з пазначэньнем «для продажу толькі на тэрыторыі Беларусі») чытаць зноскі з перакладам «сустрекали — встречали», «шлях — путь»! Пададзены сьпіс фальклёрных гуртоў і асобных людзей, чые запісы скарыстаны ў альбоме. Улічваючы роднасьць музыкі і словаў, ня дзіва, што прысутнічае ў сьпісе Бранская вобласьць, нават Архангельшчына (крывічы й туды дабраліся); ёсьць і зусім сваё — ансамбаль зь Клётнай Берасьцейскай вобласьці. Але ёсьць і такія далёкія Астраханскі край, Башкартастан. Геаграфія шырокая. Не абышлося, праўда, і безь недахопаў у аздабленьні — для аднаго фольк-гурта не пазначанае «месца жыхарства»; і нідзе не зразумела, да якіх жа кампазыцыяў ён мае дачыненьне. Што дадае пэўнай інтрыгі — а калі раптам самыя «беларускія» песьні выконваюць башкіры?

Што канкрэтна да музычнага зьместу альбому. Я асабіста знайшоў там, акрамя раскручаных «Кастрамы» і «Каляды», як найменш яшчэ два супэргіты — «Вінаград» і «Маладосьць». Першы, асабліва ў прыпеве, нагадвае этнагімн, пры якім хочацца сесьці пад драўляным стодам пры вогнішчы і качацца з боку ў бок. Другі ж — апатэоз «жывога гуку»! — мілы да ўсьмешкі распавед бабулі пра жаночае жыцьцё. Кароткі да геніяльнасьці. Толькі лепш не чытайце тэкст, а сьпярша паслухайце!

Ёсьць, ёсьць і такія песьні, у якіх расейскасьць адчуваецца добра. Не настолькі гітовыя, але на агульным фоне ўспрымаюцца ня горш. А ў параўнаньні з лубочным афіцыйным фальклёрам. Ніякага параўнаньня ня можа быць!

А дзьве песьні, на маю думку, з агульнай канцэпцыі выпадаюць. У альбоме выразна адчуваюцца архаічныя этнічныя матывы, а «Бровы» — стандартны сучасны фальклёр, з усімі хібамі, уласьцівымі афіцыйным фольк-ансамблям. Толькі атачэньне ды больш мадэрновае аранжаваньне ставяць гэтую кампазыцыю вышэй за якое «Залатое кола». А іншая песьня, акрамя таго, што таксама стандартная формай ды даўно ўсім вядомая зьместам, дык яшчэ і... украінская. Славутая «Нэсэ Галя воду...» (гэта ейнага тэксту няма на вокладцы). Вось і выбіваецца, акрамя завялікай вядомасьці ды амаль клясычнага выкананьня, сваёй чыстай украінскасьцю — хто выконваў толькі? — на фоне пераважнай расейска-беларускай трасянкі. (Гэта ўжо сьмешна, але ізноў Украіна не падыходзіць да расейска-беларускай інтэграцыі! Іншыя б усе інтэграцыі гэткімі былі...)

А самая цікавая з усяго пералічанага кампазыцыя — «Сваточкі». Гэтыя «Сваточкі»-галубочкі — родныя браты нашаму «Сваточку-галубочку», вядомаму праз «Крыві». «Купалаўскі» варыянт песьні аб'яднаны зь яшчэ адной песьняй, рэкруцкай. Але вельмі і вельмі блізкія паходжаньнем песьні выглядаюць у альбомах «За туманам» і «Кастрама» абсалютна па-рознаму. У «Крыві» — напружана да трагічнасьці, у «Ивана Купалы» — распаволена амаль да весялосьці, хоць і рэкруцкая.

Падсумую — альбом файны. Так бы мовіць, «Кастрама, mon amour». Лішні доказ таму, што арыгінальны фальклёр, зь любоўю апрацаваны, успрымаецца лёгка і з радасьцю, не зважаючы, адкуль ён родам — у адроьненьне ад а-la фальклёрнага афіцыёзу (узгадаем сумны лёс заезджанай «Лявоніхі»...). Як гучыць у альбоме: «эта сушчэственная праўда».

**Дзяніс Носаў**

беларускі гіт-парад (сьнежань)

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | NRM | Пашпарт грамадзяніна НРМ | Ковчег |
| 2. | Нейро Дюбель | Кутрынкі і качулкі | Grand records |
| 3. | *розныя выканаўцы* | Калядны Альбом | BOUTIQUE KAMILA |
| 4. | НОВАЕ НЕБА | Цэпэліны | Ковчег |
| 5. | Крыві | Людзям | Ковчег |
| 6. | *розныя выканаўцы* | Вольныя танцы: Слухай Сваё! | БМА |
| 7. | КРАМА | Хворы на рок-н-рол | Ковчег |
| 8. | Палац | Дарожка | Пан-рэк |
| 9. | Мясцовы Час | Наша Ўскраіна | Ковчег |
| 10. | КАМЭЛОТ | У краіне талераў | Тон рэк |

Радыёварыянт беларускага гіт-параду можна пачуць кожны апошні чацьвер месяца з 10.00 і кожную нядзелю з 13.30 на хвалях «Радыё-2» (Fm 70.4 Am 1197 kHz)

Штомесяц да 20-га дасылайце свае варыянты гіт-параду на адрас: 220085, Менск, а/с 5 і Вы возьмеце ўдзел у конкурсе, пераможцы якога атрымаюць прызы.

*Набыць беларускую аўдыё-, відэа- і кніжную прадукцыю, у тым ліку кампакт «Калядны альбом» можна праз сыстэму «Касэты-поштай» (а/с 5, Менск, 220085 тэл. (017) 249 08 88 Віталь E-mail: aja@cscsc.lingvo.minsk.by).*

# ПАПСА

Ня ўсё тое, што гучыць, ёсьць музыкай. Але амаль усё, што гучыць, гучыць ня проста так. Значыць, некаму вельмі патрэбна, каб уся гэтая маскоўская папса гучала паўсюль і заўсёды. Калі слухаць гэтую папсу нейкі працяглы час, ды яшчэ на пустыя мазгі, сфармуецца адмысловы тып мысьленьня. Такі чалавек на пэўным этапе ўжо сам захоча паслухаць такую музыку. Галоўнае, што «на панятным языке» і што абсалютна не патрабуецца думаць. «У галаве маёй прахладна і пуста», як сьпявае адзін маскоўскі сьпявак. «Врэмя начышчаць сапагі», пяе ён далей, і ніхто не забароніць яму прапаганду вайны. Ён выконвае замову сваёй імпэрскай дзяржавы — сфармаваць адмысловы тып людзей, якімі лёгка было б маніпуляваць, якіх лёгка пасладзь у Чачэнію ці ў іншае пекла. Якія дазволяць пабудаваць любы Чарнобыль, любыя Баранавічы.

...Нейкі час таму быў для мяне вельмі прыкры пэрыяд: часта міжволі даводзілася слухаць замежнае радыё пад назовам «Маладзёжны канал». От, скажаце, так ня можа быць. Бо заўсёды знойдзецца спосаб павярнуць круцялёк выключальніку. Так то так, але ж пакуль тое змаглося, давялося высачыць пэўныя заканамернасьці.

Зноў жа, ня буду пра палітыку. Бо колькі можна рэагаваць на іхныя сэнтэнцыі, што «мы самі выбралі сабе прэзыдэнта, якога хацелі». Нехта заплаціў грошы, дык і замовіў музыку. Але ж я пішу пра іншую музыку, музыку ў літаральным сэнсе.

Аднойчы па гэтым радыве выказалі нат формулу, па якой іх прымушаюць працаваць: 70% ад рэпэртуару павінна складаць «ацечаственная» музыка, і толькі 30% — замежная. Ясная рэч, што беларуская музыка ніколі ня ўвойдзе ні ў водную з гэтых дзьвюх катэгорыяў. Для іх, як і для ўсякага іншага маскоўскага мэдыя, музычная прасторы ад Бранску да Бэрліну не існуе нагул — ні табе Польшчы, ні Вугоршчыны, ні якой іншай краіны былога сацлягеру ці былога СССР.

Але ж і ня гэта самае прыкрае ў гэтым мэдыі. А тое, што апанавала і іх інтэгрызатарская тэндэнцыя. Амаль нідзе з былых падпарадкаваных тэрыторыяў іх цяпер ня слухаюць, дык карціць ім адыгрགацца на Беларусі. І вось жа маюць ны такія перадачы, якія складаюцца на прынцыпе адваротнае сувязі са слухачамі. Дык нияк у іх так атрымоўвацца, што бадай кожны другі званок ідзе ім зь Беларусі. І што хочуць гэтыя званяшчыя? А замовіць сабе нешта з маскоўскай папсы (без таго ім яе не хапае!), перадаць прывітаньне блізкім ці знаёмым (бліжай, чым праз Маскву, ім, мабыць, неспадручна!). Мабыць, паводле думкі аўтараў перадачы, тое павінна паказаць «страмленіе нашых народаў к ядзіненію».

Калі такія званочкі арганізаваны адмыслова, то гэта, канечне, справа сумленьня арганізатараў. Але ж, мне здаецца, дурноты ў нас не хапае, і дастаткова простай сэлекцыі.

І вось адбываецца такая тыповая карціна. Апантаная паненка, аж захлынаецца, шчабеча на тэрыторыю абодвух незалежных панстваў: мы вось седзімо тутака на рабоце, нас тут дваццацёх чалавек у адным памяшканьні, і такія мы ўсе дружныя, і ўвесь свой працоўны час слухаем ваш канал, і вох як ён нам падабаецца... перадайце, калі ласка, для нас тота й тота, прывет тамута й тамута...

...Я не пытаюся аб тым, што мае ў галаве такая паненка замест пачуцьця элемэнтарнай самапавагі. Але ж хаця б не разглошвала нашу дзяржаўную тайну, што ў нас г э т а к арганізавана праца на пэўных «гасударсьцьвенных прадпрыяцьях». А начальству на такіх прадпрыемствах можа варта было б забараніць прыватныя міжнародныя перамовы са службовых тэлефонаў. Бо ня намі ж сказана, што эканамічная сытуацыя складаная і без таго.

...І зноў пра музыку. Насамрэч адметная падзея: сольны канцэрт Ірыны Дарафеевай ды яганая трансьляцыя па БТ на працягу дзьвюх з паловай гадзінаў (19. XII). На жаль, я глядзеў яго трохі не ад самага пачатку. Але з тых песень у ейным выкананьні, якія мне давялося паслухаць, толькі 3 (тры) былі на беларускай мове, а 15 (пятнаццаць) — на расейскай. Без камэнтару...

...Што рабіць, калі папса апанавала ўсё наўкола? Выключыць гук, гэта ясна. А яшчэ лепш — уключыць затым сапраўдную музыку.

**Аляксандар Урбановіч**

# АДАМОВІЧЫ

***Нататкі да выхаду кнігі Славаміра Адамовіча «Плавільшчыкі расы»***

Адам ГЛЁБУС

Да братавай затэлефанавала дзевяностагадовая бабуля з пытаньнем: «Дык за што, насамрэч, пасадзілі Міраслава?» «Якога Міраслава?» «Твайго! Сягоньня па радыё перадалі, што Міраслава Адамчыка пасадзілі ў турму КГБ за верш пра Лукашэнку». «Супакойцеся, бабуля, ня піша Мірак вершаў пра Лукашэнку. Пасадзілі не Міраслава, а Славаміра Адамовіча». «Не дачула. Прозьвішчы падобныя. Спалохалася й пазваніла...»

Такіх прыкладаў шмат. Блытаюць ня толькі Славаміра зь Міраславам, блытаюць Глёбуса з Сысом, Лукашука з Лукашэвічам, і клясыкаў Коласа з Купалам таксама блытаюць. Для пэўнага кантынгенту з насельніцтва Беларусі ўсе беларусы на адзін твар і на адно прозьвішча. Мы яшчэ, праўда, не дайшлі да той жахлівай мяжы, калі беларусаў пачнуць у Менску называць ***зверьми***, як расейцы называлі казахаў у Алма-Аце. Але пэўныя тэндэнцыі ў гэтым накірунку праглядаюцца.

Не памылюся, сказаўшы, што тое агульнабеларускае прозьвішча — Адамовіч. Адных толькі вядомых Адамовічаў-літаратараў — тры. Антон, Алесь і Славамір. Мне цяжка растлумачыць тую акалічнасьць, што ў часы татальнага захапленьня псэўданімамі Славамір не пакінуў падпісваць вершы ўласным прозьвішчам. Ці то ён верыў у сваю здатнасьць пераўзыйсьці папярэднікаў, ці не надаваў прозьвішчу вялікага значэньня? Ведаючы амбітнасьць Славаміра, схіляюся да першай вэрсіі. Так ці йнакш, а Славамір застаўся Адамовічам і два разы праславіўся на ўвесь сьвет.



Апошні прыжыцьцёвы здымак Антона Адамовіча, зроблены ў 1993 годзе ў Каліфорніі Сяргеем Шупам.

Як і кожная творчая асоба, праславіўся ня ў тых месцах, ня з тымі асобамі й ня тымі творамі, якімі хацеў. Ну хто гэта на поўным сур'ёзе захоча праслаўляцца ў якасьці пазаштатнага інфарматара савецкага КГБ? А менавіта ў такім кантэксьце імя Славаміра стала вядомае шырокай публіцы. У зьвязку з разбурэньнем СССР КГБ вырашыў правесьці чыстку й перетрус сваіх неманалітных кадраў. Гэта, падкрэсьлю, асабіста мая гіпотэза. ***Прожженный*** журналіст Шчакаціхін заклікаў усіх інфарматараў прызнацца й пакаяцца. Славамір даслаў Шчакаціхіну ліст з гісторыяй свайго супрацоўніцтва з ворганамі дзяржбясьпекі. Ліст, сярод іншых, быў зьмешчаны ў шматмільённатыражным часопісе ***“Огонек”***. На маю думку, Славамiраў ліст быў занадта сухі й дакумэнтальны, а таму я прапанаваў яму напісаць аповесьць пра свайго сярод чужых і чужога сярод сваіх. У той час мы з братам Міраславам выдавалі часопіс «АВС-ДЭТЭКТЫЎ». Адамовіч напісаў, мы зьвярсталі й давялі да арыгінал-макету. Але аповесьць ня выйшла, інфляцыя зьела грошы. Пазьней яна выйдзе ў альманаху «Калосьсе» і пройдзе незаўважанай. Зьмяніўся час, зьмянілася кан'юнктура папулярнасьці, СССР зьнік, расейскі КГБ зрабіўся ФСБ, толькі ў Беларусі КГБ застаўся КГБ.

Вось тут і варта заўважыць, што ўсе тры згаданыя Адамовічы супрацоўнічалі ў той ці іншай ступені са спэцслужбамі акупацыйных рэжымаў. Антон — зь нямецка-фашыстоўскай, Алесь — з камуна-бальшавіцкай, Славамір — з савецка-імпэрыялістычнай.



Славамір Адамовіч у рэдакцыі “Нашай Нівы” ў першы дзень пасьля вызваленьня з астрогу ў 1997 годзе.

Антону не пашанцавала адразу, бо гітлерызм прайграў сталінізму.

Алесю пашанцавала: апынуўшыся ў пераможцах, ён разгарнуў кіпучую дзейнасьць: пісаў раманы, здымаў фільмы, займаў пасады, круціўся ў вышэйшых колах маскоўскага крамля. Апошні фільм Алеся Адамовіча патрабуе асобнай адзнакі. Называўся ён «Ідзі й глядзі». Я схадзіў і паглядзеў у менскім кінатэатры «Мір». Акрамя мяне ў залі было чалавек сем-восем. Гэты кінатвор я аднашу да жанру кінапаталёгіі. У першай сцэне хлопчыкі рыюцца ў акопным пяску, шукаючы зброю. Стары пастух ганяе падшыванцаў і неяк куртата, але разабраць можна, мармыча прымаўку: «Мбацца, сраццам, пальцам у срацы калупаццам». За такім пачаткам быў адпаведны працяг. Зьявіліся трупы, па якіх поўзала процьма мух. Я падумаў: якім жа гэта мёдам панамазвалі актораў, што столькі мух назьбіралася. Але на мёд пазьляталіся б пчолы з восамі. А тут адны мухі, як над падлаю. Можа трупы сапраўдныя? Кіношнікі мне казалі, што трупы на здымкі прывозілі зь менскіх трупярняў. Праўда гэта ці не, а ў Вэнгрыі Адамовічаў фільм на экраны не пусьцілі за непамерны натуралізм і жорсткасьць. Правільна мадзяры зрабілі.



Алесь Адамовіч

Гэта ўсё да таго, што Славаміру зь ягонымі лірычнымі правакацыямі ня так лёгка будзе пераплюнуць папярэднікаў па прозьвішчы, якія хадзілі па беларускай зямлі ня толькі з нажамі, а й зь пісталетамі ды аўтаматамі. Пэўна, каб Антон ці Алесь пісалі б верш «Убей президента», яны б ня клікалі некага ў памагатыя, а пайшлі б самі вяршыць прысуд. І канкрэтыка была б: Антон забіваў бы Сталіна, Алесь — Гітлера. Дарэчы, Алесь так і заяўляў, што асноўная ідэя «Ідзі й глядзі» — кожны мусіць забіць у сабе Адольфа Гітлера, ні больш, ні менш.

У Адамовіча і прэзыдэнт, і забойца абстрактныя, а таму аналізаваць, хто каго там разгледзеў, ня мае сэнсу. Цікавы ня сам верш, а гісторыя, зьвязаная зь ім. Славамір напісаў расейскі *стишок*, аддаў у правінцыйную газэтку й займеў славы, праблемаў, новых уражаньняў поўны мех. Дзесяць месяцаў турмы, сухая галадоўка, камэрная лірыка, суквецьце хваробаў — цана папулярнасьці. За ўсё плоціш.

Кожны з Адамовічаў заплаціў за сваю славу й любоў да Радзімы. Антон — вымушанай эміграцыяй, Алесь — уцёкамі ў Маскву, дзе памёр на нейкім урадавым банкеце, Славамір — адседкаю ў турме КГБ. І варта падкрэсьліць яшчэ раз асноўнае, што лучыць гэтых трох літаратараў — самаахвярная любоў да Бацькаўшчыны, служэньне беларускай ідэі й несумненны талент кожнага зь іх. ■

Андрэй ХАДАНОВІЧ

## Банальнае віншаваньне

Пакункі, падарункі, пачастункі...
Сьвяткуем Новы год (ці Новы рок?).
Нябесны матэматык зьвёў рахункі
і акругляе лік у большы бок,

каб нехта зь нецьвярозым Дзед-
Марозам,
сусьветным дабрадзеем, хатнім геніем,
сустрэў... як гэта?.. цяжка із
склерозам...
лінолеюм? рэланіюм? міленіюм!

Абломак Часу патануў у Леце
й кругамі разышоўся па вадзе.
Хай прага невядомага, паэце,
у навагоднім опусе гудзе!

Надзеяй, што таілася пад сподам,
ты сам сябе наіўна ўзнагародзь.
Дык з Новым гудам... гідам...
гадам... годам,
што сёньня дарагі тысячакроць!

А цераз год настане XXI-ы
(таксама трыццаць першага ўначы).
Дык будзьма і на будучыя вершы
натхненьне ды паперу берагчы!

Дзьвюхтысячны кранае сэрцы чулых,
але ж таксама мусіць адысьці —
да тысячы дзевяцісот мінулых
й мінулых дзевяноста дзевяці.

*30.12.1999*

---

бібліятэка

# БЕЛАРУСЬ: АРАБСКАЕ БАЧАНЬНЕ

И.Коновалова. Восточная Европа в сочинении ал-Идриси. — М.: Выдавецкая фірма «Восточная литература» РАН, 1999. — 254 с. ISBN 5-02-018048-3




Пра Ідрысі ў Беларусі ня тое каб зусім ня ведаюць, хутчэй, не цікавяцца. Нашчадак прарока Мухамада, эміраў Фэса, Абу Абдалах Мухамад ібн Мухамад ібн Абдалах ібн Ідрыс ал-Хамудзі ал-Хасані вядомы ўсяму цывілізаванаму сьвету проста як Ідрысі, вялікі арабскі географ XII ст. У сваёй працы «Забавы стомленага ў вандраваньнях па абласьцях» (з мапай) ён пісаў і пра беларускія землі.

Коратка пра Ідрысі і яго працу можна даведацца з «Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі» і з больш падрабязнага артыкула Алеся Белага ў апошнім сшытку «Беларускага гістарычнага агляду». Цэльную карціну поглядаў Ідрысі на Ўсходнюю Эўропу прапануе ў сваёй манаграфіі маскоўская дасьледніца Ірына Канавалава.

Ідрысі ва Ўсходняй Эўропе, тым больш у Беларусі, ня быў. Пісаў з чужых словаў, успамінаў, аповедаў, шмат браў з ранейшых кніг. Ён ня быў і ў многіх краінах Заходняе Эўропы, Афрыкі, Азіі, а ўсё ж яго працу ўважаюць за вяршыню арабскай геаграфічнай навукі. Бо ён сабраў надзвычай багатыя зьвесткі, адкінуў фантастычныя і проста няпэўныя зь іх, узгадніў паміж сабою апавяданьні з розных крыніц. Не яго віна, што зьвесткі ў яго кнізе, прыкладам, пра Фінляндыю, багацейшыя за зьвесткі пра Беларусь. Так яму данесьлі вандроўнікі і гандляры. А тое, што ён расказвае пра нашыя землі, патрабуе яшчэ дэшыфроўкі.

Вывучаць Ідрысі як географа Беларусі пачаў яшчэ славуты Яўхім Лялевель, выкладчык Віленскага ўнівэрсытэту ў 1815—1824 гадах, пасьля палітычны эмігрант. Яго манумэнтальная «Геаграфія Сярэднявечча» ў 4-х тамах выйшла ў Брусэлі ў 1850—1852 гадах. З тае пары адносна пэўных зьвестак Ідрысі дасьледнікі прыйшлі да згоды, а ў інтэрпрэтацыі няпэўных адзінства няма.

Агромністае возера Тэрмі (Цірма) ляжыць недзе ў сярэдзіне Ўсходняе Эўропы: «Гэта вялікае возера, яго даўжыня з захаду на ўсход 300 міляў, а шырыня 100 міляў. Гэта вельмі вялікае возера, а ў сярэдзіне яго знаходзіцца гара, дзе жывуць знакамітыя дзікія казлы, а таксама жывёла, празываная бабром. І большая частка гэтага возера з усходняга боку распасьціраецца да краіны Куманіі. Насупраць яго тыльнай часткі, пасярод лугоў і лясоў, знаходзяцца вытокі ракі Данабрыс (Дняпро), якая завецца там Балтас». Хто не пазнаў у апісаньні гэтага возера Прыпяцкія балоты? А вось І.Канавалава даводзіць, што гэта апісаньне Азоўскага мора, узятае Ідрысі з працаў папярэднікаў.

Сінубулі, «вялікі квітнеючы горад на рацэ Данабрыс, з заходняга боку», — гэта, безумоўна, Смаленск. На той жа рацэ Ідрысі адзначае горад Мунішка (Муніска). Шматлікія дасьледнікі атаесамляюць яго таксама са Смаленскам (проста Ідрысі браў інфармацыю ўжо зь іншай крыніцы), але ёсьць меркаваньне, што гэта Менеск. У такім выпадку гэта першая ў сьвеце выява нашае сталіцы на геаграфічнай мапе. Загадкавы ў Ідрысі горад Бармунія. Адны дасьледнікі бачылі ў ім зноў жа Смаленск, іншыя — Бэндэры, Церабоўлю, Белгарад-Днястроўскі альбо нашыя Рэчыцу, Тураў ці Берасьце. З апошнім горадам яшчэ ідэнтыфікуецца таямнічая Абрэза. Ёсьць у Ідрысі стары аповед з новымі падрабязнасьцямі пра так званыя тры цэнтры Русі, адзін з каторых, а менавіта Арсу, спрабавалі зьвязаць зь беларускай Воршай. Незразумела, чаму ў Ідрысі няма ніводнага ўспаміну пра такі значны горад Беларусі, як Полацак. Канечне, арабы лепш ведалі поўдзень Беларусі, але сярод інфарматараў Ідрысі былі і скандынавы, якія, напрыклад, шмат цікавага паведалі яму пра Фінляндыю (Фінмарк). Географ дазнаўся нават пра зямгальскі (што ў Латвіі) горад Мадсуна — цяпер гэта гарадзішча ля Мажотне. Літва арабаў не зацікавіла.

Шматлікасьць варыянтаў у пошуках прататыпаў назваў гарадоў у Ідрысі не павінна зьдзіўляць. Славуты географ карыстаўся інфармацыяй з многіх рук. Да таго, у арабскай мове няма многіх гукаў, якія былі ў гаворках тубыльцаў, адсюль непазьбежныя падмены ў напісаньні назваў (так, гук «п» замяняецца на «б»). Да таго, асаблівасьці арабскага пісьма дазваляюць прачытаць адну назву ў розных манерах. Да таго, гэтыя няўмекі-перапісчыкі моцна папсавалі рукапісы славутага Ідрысі. Так што маем вялікія цяжкасьці з расшыфроўкай інфармацыі несьмяротнага араба.

Дасюль няма добрага дакладнага перакладу Ідрысі на мовы, знаёмыя ў Беларусі. І.Канавалава абяцае ў недалёкай будучыні апублікаваць ня толькі арыгінальны тэкст працы географа, але й яе сучасны пераклад. Тады беларускія аматары разгадваць гістарычныя рэбусы атрымаюць поўную магчымасьць выявіць сваю эрудыцыю, умельства і знаходлівасьць.

**Валеры Пазьнякоў**



Вялікі князь Вітаўт абірае герб для Гомеля. Малюнак XV стагодзьдзя. Друкуецца ўпершыню

# АБ МЯСТОХ КРЫВІЦКІХ ПРАЎДА...

**Антынавуковы трактат з разглядам некаторых пытаньняў із сфэры тапанімії й этымалёгіі назваў беларускіх гарадоў**

**БРАСЛАЎ**

Калі прыйшоў у наш край рымлянін Палямон, быў спаміж ягоных вояў адзін на імя Брас. (А звалі яго так, бо ён брасам плаваць любіў.) Пабачыў ён тутэйшых дзевак і сказаў: «Уга!» А дзеўкі — у адказ: «Вось табе і ўга!» Так ён і застаўся тут, заснаваў з гэтымі дзеўкамі горад, які так і назвалі — **Браслаў**.

**ВОРША**

Сабраліся аднаго разу нашыя продкі пабіцца з расейцамі. Прыйшлі на поле каля рэчкі Крапівенкі, пабачылі расейцаў ды як заравуць: «Раша — параша, а перамога наша!» Ну, потым, бадай, прыгадалі, што яны рыцары й шляхта: узьнялі чырвоны сьцяг з «Пагоняй», засьпявалі «Багародзіцу». Але гэта ўжо не дапамагло — расейцы пакрыўдзіліся. Так іх нашыя продкі й перамаглі.

Бітву ў той гонар назвалі Рашанскай, альбо Аршанскай. А потым (каб ня блытаць) і горад бліжні назвалі ад імя тае бітвы — **Ворша**.

**МЕНСК**

Каго толькі ў нашых краях ні перабывала. Вось, напрыклад, у самым цэнтры Беларусі жылі немцы. Тутэйшыя, аўтэнтычныя. І горад свой так і называлі — Немск. Але ж немцы — яны немцы й ёсьць: гергечуць нешта па-свойму, незразумела. Давялося ўсіх вынішчыць, а горад перайменаваць у **Менск**.

**ЗАСЛАЎЕ**

Жыды зьявіліся ў нас даўно. Пасьля таго, як Рагнеду зьвёз у Кіеў тамтэйшы князь, прыйшоў сюды невядомы чалавек нетутэйшага абліччa: чарнявы, насаты, вочы лупатыя... Кажа: «Я вашай Рагнеды сын, а клічуць мяне Ізя». Ну, нашыя продкі, вядома, абурыліся: мала, што выглядае не па-нашаму, дык і імя ў яго нейкае... няправільнае... Ён пабачыў, што ня тое ляпнуў, ды стаў выпраўляцца: «А поўнае імя — Ізяслаў». Падумалі-падумалі прадзеды й вырашылі, што горад лепей назваць не ад кароткага імя, а ад поўнага. Так і сталася Заслаўе.

**СМАЛЕНСК**

Што былі ў нас мурыны — не сакрэт. Яшчэ ў глосах да пятага, дапоўненага й выпраўленага, выданьня «Полацкага летапісу» адзін з рэдактараў кнігі (ці то С.Полацкі, ці то Ул.Арлоў) адзначыў, што горад Смаленск назвалі за чорны, як смала, колер скуры ягоных месьцічаў.

Праўда, некаторыя ўсходнія недавяркі кажуць, што насамрэч жыхары Смаленску да ўсіх ліплі, як смала. Але ці ж варта слухаць гэтых ёлупаў?

**СЛОНІМ**

Навукоўцы кажуць, што апошняга ў сьвеце маманта зьелі жыхары Беларусі. Адбылося гэта ў Слоніме. Толькі месьцічы ня ведалі, што ядуць маманта. Яны думалі — слон, адно валасаты. А сланоў яны вельмі любілі й нават горад свой назвалі Слонім.

**КОБРЫНЬ**

Адзін зь беларускіх гарадоў заснавалі амазонкі. Ці то гэта была адна з грэцкіх паўночных калёніяў, ці то эміграцыя з Эляды (кшталту пазьнейшай Палямонавай). Ну, як амазонкі ставіліся да мужыкоў — асобна распавядаць, пэўна, ня трэба. Не падабалася гэта тутэйшым мужыкам. «У-у, кобры!» — злосна шыпелі яны. Вось так і зьявіўся горад Кобрынь.

**ТУРАЎ**

У Тураве спрадвеку жылі туркі. А паколькі жылі яны даўно, дык і горад назвалі прыгожай кароткай турэцкай назвай Алі-Башы-Эфэндзі-Гасан-Абдурахман-Ібн-Бэндэр-Бэй.

Пакутавалі навакольныя беларусы ад такой назвы: пакуль вымавіш — язык зламіць можна. Дый на капэртах назва ў адзін радок ня ўлазіць. Плюнулі яны на ўсё й назвалі горад Туркавам. Ну, а цягам часу стаўся ён **Туравам**.

**МАГІЛЁЎ**

Жыхары аднаго невялікага мястэчка вельмі любілі гогель-могель. Да такой ступені ўпадабалі, што нават іхны горад назвалі Гогель-Могелевам, а іх саміх — гогель-могелеўцамі. Праўда, назва падалася задужа вялікай для такога маленькага мястэчка, і тады яе скарацілі да Могелева. Хто ж мог ведаць, што гэтаму мястэчку наканавана стаць вялікім горадам **Магілёвам**?

Некаторыя містыфікатары, аднак, выводзяць назву гораду ад нейкай Магілы лява. Але нядаўна праведзеныя археалягічна-антрапалягічныя досьледы даказалі, што ніякі гэта ня леў, а звычайны збрадлівы кот, прыдушаны, верагодна, гаспадаром за скрадзеную сьмятану (разьбіты гаршчок з-пад сьмятаны знойдзены тутсама, у так званай Магіле лява).

**Жбан Няўмера, С.Маркальскі**

## паштовая скрынка

**Чытачу зь Менску.** *Каб па-беларуску абслугоўвалі, такіх ня ведаем. Нам дужа падабаюцца «Viru Džaugzmas» на пр.Гедыміна (Gedimino), «Molinis Asotis» на Наваградзкай (Naugarduko), Viski Klub на Замкавай (Pylies). Стравы там усе беларускія: сьвіныя вушы з дранікамі і г.д. Цэны ад 1,5 да 7 даляраў за страву. Гатэль у Вільні каштуе ад 10 даляраў за ноч.*

**Паўлу Х. з Гановэру.** *Сьпіс 100 лепшых кніг стагодзьдзя найперш выконвае ролю стваральніка новага «канону і іканастасу» ў беларускім слове. Які пасьля таксама будзе ставіцца пад сумнеў і перасэнсоўвацца ў сваю чаргу. Яснае дзела, што некаторыя кнігі апошніх гадоў займаюць у ім месца вышэйшае за можа больш грунтоўныя даўнейшыя выданьні проста дзеля таго, што яны на вачах. Праз 10 гадоў з ростам і ўрбанізацыяй беларускага грамадзтва сьпіс ужо будзе зусім не такі. Але гэты робіцца тут і цяпер. І вельмі цікава, што ён паказвае. Вазьміце толькі два прыклады.*

*Быкаў і Караткевіч стаюць вышэй за Коласа з Купалам. І гэтак мабыць будзе ў XXI ст.*

*Кнігі, выдадзеныя за межамі Беларусі, застаюцца незаўважаныя чытачамі, нават тады, калі яны арыентаваныя на масавага чытача, а не на калекцыянэраў ці спэцыялістаў. Гэта важныя праўды, што вынікаюць са сьпісу.*



**КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

Імя і прозьвішча ______________________________

Адрас, тэлефон ______________________________

## прыватныя абвесткі

**вітаньні**

**Віншую любую** бабулю Тацяну Мікалаеўну з Днём нараджэньня і Калядамі

**Віншую братка** Ўладзіслава са сьвятамі. Тацяна

**Віншую супрацоўнікаў** Музэю тэатру і музыкі Беларусі са сьвятамі. Тацяна

**Усіх супрацоўнікаў** і чытачоў «Нашай Нівы» віншуем з надыходзячымі КАЛЯДАМІ!!!

**Віктар Федасевіч**, вялікае прывітаньне табе зь Берасьця

**Вітаем** сп.Антося Ўсовіча

**Віншую з Калядамі** сваіх родзічаў з Гомеля — сястру Кацярыну і швагра Андрэя. Усё будзе добра! Ігар

**кантакты**

**Нябрыдкія і досыць** цікавыя інтэлектуальныя хлопцы-кампанейцы жадаюць завесьці знаёмцаў (хлапцоў і дзяўчат) для цікавага жыцьця. 247740, Петрыкаў, Талстога, 22. Т.: (02350)5-12-66

**Сяржук Аржанцаў**, твой ліст чакаюць у Берасьці. Напішы

**Kachanaja lisička**! Vychodź za mianie zamuž — nie paškaduješ. Kocik

**Усе шляхі** вядуць да нацыянал-дэмакратыі. Bielnojd — лепшы шлях да яе. Лістуйце: 210001, вул.Лякаматыўная 7-1-104

**Цікавы мянчук** пазнаёміцца з актыўнымі мужчынамі для блізкіх сустрэч. Тэрыторыя мая. А/с 78, 220141, Менск

**Запрашаю сьветлавалосую** хударлявую дзяўчыну зь Менску, Асіповічаў, Бабруйску ці Гомеля да ліставаньня па-беларуску і, магчыма, ч/б фатаграфаваньня. 246027, Гомель-27, а/с 89

**На гістарычным** шляху беларусаў да свабоды выключнае месца займае дзейнасьць і творчасьць К.Каліноўскага. Данясем яго праўду да шырокіх масаў народу. Навукова-асьветнае таварыства імя К.Каліноўскага. 224020, г.Берасьце-20, а/с 19

**ідэі**

**Што пасееш** — тое і пажнеш! Сейце вакол сябе толькі любоў!

**Хочаш ведаць** праўду? Штодня слухай радыё «Палёнія» па-беларуску на кароткіх хвалях

**Прадаем высокаякасныя** запісы стогнаў і енкаў беларускай апазыцыі. Маем плякаты ўлюбёных выканаўцаў. Т.: 2-11-19. Манаполька ліцьвінская зь Ліды

**Манаполька ліцьвінская** зь Ліды напрошваецца на сьвяткаваньне Калядаў і Новага лета. Т.: 2-11-19

**Манапольцы зь Ліды:** уласныя амбіцыі ды дурнота згубілі не адну добрую справу!!! «Ліцьвіны»

**Ліцьвін, далучайся** да сваіх! Разам мы адродзім ВКЛ, нашу Бацькаўшчыну, наш лад. Усе паветы ВКЛ

**У новае стагодзьдзе** без падмены паняцьцяў!!! А/с 124, 246012, Гомель

**Не апазыцыя.** Не «пазыцыя». Моладзь за Беларусь! Нацыянал-дэмакратычна-вызвольнае згуртаваньне «Касінеры». Салігорск, Маладзёжная 7-75

**ГАЗЭТА ПРЫМАЕ ТАКСАМА АБВЕСТКІ БОЛЬШЫМ ШРЫФТАМ ЗА НЕВЯЛІКУЮ ПЛАТУ**

- *да 20 словаў — **56** руб.,*
- *звыш 20 словаў — **78** руб.;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява — **20** руб. за 1 кв. см;*
- *па-мастацку афармленая аб'ява памерам больш за 24 кв. см з улікам кошту арыгінал-макету — ад **44** руб. за 1 кв. см.*

*За аб'яву пра сямейныя падзеі — зьніжка.*

Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на наступны разьліковы рахунак: *Рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010 Ленінскае аддз. «Белбізнэсбанку» г.Менску, код 763.*

На зваротным баку бляңка паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна і чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і АБАВЯЗКОВА ДАДАЕЦЦА СКАЗ: «ЗА РЭКЛЯМНЫЯ ПАСЛУГІ».

*Рэдакцыя*

**Газэта «Радавая Беларусь»,** апошні нумар у старым абліччы. Ад Вас — 25000, капэрта з маркаю й купон б/а. А/с 169, 220030, Менск

**Новы беларускі** прэзыдэнт, які будзе абраны летам 2000 — гэта Вінцук Вячорка

**Chaču nazad** u VKL!!! Paval

**Lićviny! Adradženie** źwiazu z Polszczaj — pierszy krok da adradženia Litwy! Żywie Recz Paspalitaja Abodwuch Narodaū

**Шчыра спачуваю** ўсім беларусам з нагоды падпісаньня дамовы. Вітаўт

**Прывітаньне**, чалавеча, ад Марата, ад Казея. Пашукай па мапе Ўнечу (ну, ёсьць такі горад недзе ў Расеі)

**Нязносны гонар тым**, што робім сёньня. Дулю! Вазьмі ў звычай, сын герояў і багоў, Не пагарджаць сьвятым сваім мінулым, А заслужыць яшчэ, і вартым быць яго. Уладзімер Караткевіч

**Aznajmujem**, što 10 śnieźnia ū volnym mieście Miensku ūtvaryłasia Kanfederacyja Ūsich Stanaū VKL. Ad hetaha času biarom na siabie adkaznaść za ūsich hramadzianaū Rečy Paspalitaje Abodvuch Narodaū

**Наш Францішак Скарына** па-руску пісаў! Ды не маскоўскую мову ён рускаю зваў. Русіч-крывіч

**прадаю**

**Прадаецца піяніна** «Беларусь» чорнага колеру няновае, у добрым стане. Зав.Табольскі, д.21, 220137, Менск. Т.: 43-06-66

**праца**

**Дапамагу пачаць** сваю справу. Даступна, цікава. Высокі прыбытак. Укладзіце кап. са зв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/я 122

**шукаю працы**

**Бугальтар,** досьвед працы ў грамадзкім аб'яднаньні, ангельская мова (курсы ЦДА), шукаю працы. 220073, г.Менск-73, а/с 232

## новыя кнігі, дасланыя ў рэдакцыю

П.Васючэнка, А.Вырвіч. **Прыгоды аднаго губашлёпа (Аповеды пра Валентага).** — Менск; 1999. — 64 с. — Наклад 1000 ас. ISBN 985-6095-17-4

*«Гэта здарылася ў тыя часы... калі савецкі народ з упэўненасьцю ўзіраўся ў сваю будучыню...» Жыў-быў тады студэнт Валенты Круткоўскі, родам з Заходняй Беларусі, здаваў зь пераменным посьпехам іспыты, гуляў у «Спортлато», тушыў неіснуючыя пажары, паіў адмысловай гарбатай нямецкага генэрала, кахаў і расчароўваўся і, на жаль, дзюбаў гарэлачку і чарніла. Адным словам, быў сапраўдным студэнтам, якім ніколі няма зводу, — ні цяпер, ні тады. Пяць прыгодаў Валентага сабраныя пад вельмі мяккай вокладкай у гэтым выданьні газэты «Частный детектив». Цалкам у стылі Пятра Васючэнкі. Добра, але мала.*

**Czasopis.** Беларускі грамадзка-культурны часопіс зь Беласточчыны, прысьвечаны пытаньням сучаснасьці, гісторыі, літаратуры і мастацтва, месца чалавека ў сьвеце. n 11, n 12, 1999. 40 с. Беласток. ISSN 1230-1876

**Страны мира**: Энциклопедический справочник / Пад рэдакцыяй С.Семяніцкага. — Менск: Мірында; Радыёла-плюс, 1999. — 624 с. — Наклад 11 000 ас. ISBN 985-6511-11-9 (Мірында) ISBN 985-448-008-9 (Радыёла-плюс)

*Падаюцца кароткія нарысы пра ўсе краіны сьвету да 1996-99 гадоў. У разьдзеле пра Беларусь аўтары пішуць: «Упершыню незалежнасьць Беларусі была абвешчаная 25 сакавіка 1918 г., але амаль адразу (1 студзеня 1919 г.) была страчаная. Па распадзе СССР у 1991 г. Беларусь зноў набыла незалежнасьць. Канстытуцыя была ўхваленая 15 сакавіка 1994 г. Заканадаўства краіны грунтуецца на Грамадзянскім кодэксе колішняга СССР. Нацыянальнае сьвята — 3 ліпеня — Дзень Незалежнасьці. Выканаўчая ўлада прадстаўленая прэзыдэнтам (галава дзяржавы) і прэм'ер-міністрам. Заканадаўчая ўлада — аднапалатны Вярхоўны Савет (Нацыянальны Сход)».*

**Типология двуязычия и многоязычия в Беларуси** / Нацыянальная Акадэмія навук Беларусі. Інстытут мовазнаўства імя Я.Коласа, Беларускі рэспубліканскі фонд фундамэнтальных дасьледзінаў; Пад рэдакцыяй А.Булыкі, Л.Крысіна. — Менск: Беларуская навука, 1999. — 246 с. — Наклад 400 ас. ISBN 985-08-0295-2

*Кніга — вынік працы калектыву аўтараў Інстытуту мовазнаўства ў дасьледзінах сытуацыі дзьвюхмоўя ў Беларусі ў 2-й палове 80-х гадоў. Зьмяшчаюцца зьвесткі аб функцыянаваньні беларускае мовы й моваў іншых нацыянальнасьцяў у Беларусі ў 20-х гадох і ў пазьнейшым часе, падаецца шмат прыкладаў, што сьведчаць аб беларускім характары расейскае мовы жыхароў Беларусі ўва ўмовах білінгвізму. Цана 2760 тысячаў.*

«Наша Ніва» незалежная газэта, заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991. Галоўны рэдактар Сяргей Дубавец. Рэдактар выпуску Андрэй Дынько. Мастацкі рэдактар Сяргей Харэўскі. Сакратар-рэфэрэнт Аляксандра Макавік. Дызайн-макет Лявон Раманчык. Выдавец: рэдакцыя газэты «Наша Ніва». Заснавальнік Павал Жук. **Адрас для допісаў: 220050, Менск, а/с 537.**
**Tel/fax: (017) 227-78-92. E-mail: niva@user.unibel.by Http://members.xoom.com/Nasa_Niva.**

© **НАША НІВА**. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. Наклад 3757. 6 палос фарматам А2. Нумар падпісаны ў друк 22:44, 02.01.2000. Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, праспэкт Францішка Скарыны, 79. Замова № 6775. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4-га ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр.газэты «Известия», д. 8, кв. 173.
Дыспэтчарска-рэдакцыйны адрас. Менск, Бабруйская, 19/36
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12